Лешак Шарэпка ➔3



Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

Купалле ў Залуках ➔ 5



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 29 (2931) Год LVII | Беласток, 15 ліпеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Прытупы „Басовішча–2012”

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Выстаўка здымкаў, відэафільмаў і гаджэтаў (смычак, бэджыкаў, значкоў, цішэртаў, а нават станікаў), прысвечаных „Басовішчу” ды праз дзень конкурсныя змаганні ў час канцэрта „Before Basowiszcza” папярэдзілі сёлетні XXIII выпуск Фестывалю музыкі Маладой Беларусі, якому пачатак 13 ліпеня як звычайна на культавай сцэне ў падгарадоцкім Барыку.**

Выстава „Басовішча — каханне, тоеснасць, захапленне” (вернісаж 6 ліпеня; працягнецца да 26 жніўня) была сарганізаваная па ініцыятыве і ў зале беластоцкага Цэнтра імя Людвіка Заменгофа пры саўдзеле Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС). Паказалі на ёй галоўным чынам здымкі, якія збіраліся па закліку Цэнтра. Працы рэкамендуе больш за дзесятак фатографаў, у большасці публікуючых у друку. Куратарка выставы, сёлетняя выпускніца ліцэя, неўзабаве студэнтка культуразнаўства ў Варшаве Ганна Пякарская, з БАСу, у час вернісажу ў размове з „Нівай” прызналася:

— Найбольш падабаюцца мне фатаграфіі Юркі Асенніка. Гэта быццам бы адна фатаграфія, складзеная з 36 малых здымкаў людзей. Якраз людзі ствараюць „Басовішча” і яго клімат. Для мяне асабіста як дасюль адным з найлепшых фестываляў — той у 2004 годзе, гэта першы, на які я паехала і на якім была ад пачатку да канца. Несумненна, важным будзе сёлетні, бо першы раз я ўдзельнічаю ў яго арганізацыі. „Басовішча” гэта фестываль важны не толькі для беларусаў, але і палякаў, бо ідэя змагання за свабоду — супольная.

Здымкі і відэа з'яўляюцца запісамі з „Басовішча” апошніх гадоў. Толькі на адным відэа можна было ўбачыць ранейшыя здымкі. Першых фотазапісаў не хапіла, бо — як кажа Ганна Пякарская — не ўдалося арганізатарам выставы да іх дастацца. Успамінаючы аб сёлетнім выпуску „Басовішча” адзначае:

— Сёлета важнае, што „Басовішча” ўвогуе ёсць. Было шмат праблем. Будуць гурты, якія ўжо былі, і такія, што паяўяцца першы раз. „Басовішча” штогод іншае. І ў гэты раз будзе таксама.



Ганна Пякарская. На фоне гурт „Saint Hill”

Матэвуш Севастыянік, студэнт Беластоцкай палітэхнікі, цяперашні старшыня БАСу:

— Вядома, найважнейшыя будуць канцэрты. Такая выстава, як у Цэнтры, будзе і ў Барыку. Плануем таксама паказ фільмаў: „Фільмавае Падляшша атакуе” і дыджэйскія майстар-класы. Ужо даўно, як БАС, прабавалі мы сабраць усе матэрыялы, звязаныя з фестывалем, спрабаваць іх лічбавізаваць, паказаць, як мянялася „Басовішча”, што рабіла БАС. Я сам на „Басовішча” не ездзіў так заўзята як Ганка Пякарская. Маё першае было, здаецца, у 2006 годзе. Памятаю, паехаў я на фестываль з татам і цёцяй. Мне было 13-14 гадоў і я не мог пакідаць тату, каб пагуляць. Вялікае ўражанне рабіў на мне той тлум людзей, што шалеў пад сцэнай.

Прысутная на вернісажы Ілона Карпюк, былая старшыня БАС, вакалістка гурту „Ilo&Friends” (выступіць на сёлетніх „Басах”), якая займаецца таксама фільмам і фатаграфіяй, расказвала нам:

— На „Басовішчах” важныя мімалётныя хвіліны, сапраўды іхняя сутнасць. Гэта не імпрэза, якая прыцягвае размахам, а хутчэй адданасцю, галоўным чынам маладых людзей. Будуецца атмасфера, якая ў сваю чаргу будуе прывязанасць да месца і часу, у якім фестываль адбываецца, ды да культурнага клімату. З пункту гледжання фатографа, партрэт мае вялікае значэнне, паколькі праз пачуцці, эмоцыі будуе карціну ўсяго фестывалю. Паяўляючыеся часта фатаграфіі танцуючых нога з бел-чырвона-белым сцягам гэта штамп. Файна бачыцца нацыянальная сімволіка, але ў завуаляваны спосаб.

Адзін з заснавальнікаў БАСу, штодзень журналіст Радыё Беласток Юрка Ляшчынскі не скрываў:

— Выстава — вельмі сціплая. У мяне ёсць, здаецца, усе радыёперадачы, якія рабілі мы ў час „Басовішчаў”. А гэта таксама элемент архівізацыі фестывалю. Не бачу тут фестывальных плакатаў. Дзе той першы, славуты: з крыллямі свіння? Таксама і іншыя, як тая гітара ці птушачка на блакітным фоне неба — яны ж таксама паказваюць атмасферу імпрэзы. Здымкі тут, на жаль, таксама адно з апошніх гадоў. Але гэта добра, што нейкая небеларуская ўстанова таксама займаецца прамоцыяй і спробай архівізацыі культуры звязанай з беларушчынай.

Фатограф Павал Грэсь:

— Наколькі памятаю, я не быў, здаецца, толькі на двух фестывалях. Незалежна ад таго, што я фатограф, для мяне няважнае быць на „Басовішчы” і здымаць. Фестываль адбываецца блізка ад майго дому, дому маіх бацькоў. Ён у мяне на іншым узроўні ў душы і ў галаве, чым у людзей, што прыязджаюць сюды адкульсьці. Таму я на выставу даў толькі адзін здымак. Найважнейшай для мяне, у гэтым лесе ў Барыку, з'яўляецца сцэна. Павінна гэта быць больш выстава фотаздымкаў, хоць яны не ў змозе поўнасцю паказаць музычны характар „Басовішча”, а менш музейных экспанатаў (гаджэтаў — М. Х.).

Барбара Пякарская (маці Ганны Пякарскай), цяпер старшыня Згуртавання „АБ-БА”:

— Выстава гэта добры кавалак майго жыцця, на пачатку як асобы, якая з іншымі задумала і суарганізавала гэты фестываль, а пасля як асобы з публікі, якая прыязджае штогод і якая адчувае надалей з гэтым фэстам адмысловую сувязь. Ад гадоў плануем з мужам канікулы так, каб знайсці час на пабыўку ў Барыку, а ад калі дзеці сталі дастаткова вялікімі, забіраць іх з сабою. І так сталася, што сёлета наша дачка з'яўляецца адной з арганізатарак. Цяпер і яна канікулаў без „Басовішча” не ўяўляе.

Прытупам сёлетняга фестывалю — як гэта назваў Матэвуш Севастыянік — былі „Before Basowiszcza” на беластоцкай Вэнглёўцы (былы фабрычны цэх). Да конкурсных змаганняў прыступіла пяць гуртоў. Зоркай вечара быў ударны квартэт з Беларусі „Drum Ecstasy”, які паказаўся на „Басах” у 2006 г. Роберт Матышэўскі з беластоцкага Stowarzyszenia „Pogotowie Kulturalno-Społeczne” (ПКС разам з БАС былі арганізатарам імпрэзы і суарганізуюць сёлетнія „Басы”):

— На наш „Before” маглі заяўляцца ўсе гурты, таксама беларускія. На жаль, было іх няшмат. Супольна з БАСам мы вырашылі аб выбары гэтай пяцёркі, каб музычная якасць гуртоў была як найлепшай. Я думаю, што ўдзел такіх гуртоў не зашкодзіць формуле „Басовішча”. Яшчэ да вызначэння пераможцы на Вэнглёўцы Мацек з гурту „Dysfunkcja” сказаў нам:

— Ведаем, якая атмасфера на гэтых канцэртах і што яна, скажу, каб не перагнуць — фантастычная. Не ведаю, ці трэба дзяліць на „Басовішчы”, што выступаюць капэлы, спяваючы па-беларуску і не па-беларуску. Гэта, аднак, імпрэза беларускай меншасці з нашай тэрыторыі і гэта яна вырашае, хто бярэ ў ёй удзел. I spoko.

З удзелам беларускіх капэл падобны „Before” адбыўся 24 чэрвеня ў Мінску.

Ілона Карпюк:

— Такія „Before” гэта вельмі добрая задума. Трэба было Беласток ужо раней уцягваць у „Басовішча”.

Ганна Пякарская, якая вяла канцэрт:

— „Before Basowiszcza” гэта вельмі файная задума. Ужо тыдзень да фестывалю людзі могуць крышку адчуць яго атмасферу.

**Сайт фестывалю: www.basowiszcza.org**




**Прамая трансляцыя з фестывалю „Басовішча-2012” толькі ў Радыё Рацыя на 98,1 і на 99,2 FM, у пятніцу і суботу з 18 гадзіны, а таксама ў інтэрнэце на racyja.com**

9 770546 196000



# Садысты ў пагонах

Даўно хочацца напісаць пра штонебудзь светлае і аптымістычнае. Ды вось рэчаіснасць ніяк не дазваляе. Толькі падумаеш пра прыроду і маленькія радасці жыцця, як праз тэлевізар ці інтэрнэт з'яўляецца інфармацыя пра чарговую катастрофу, катаклізм, тэрарыстычны акт. Толькі збярэшся парадавацца нечаму ў сваім горадзе, як сутыкнешся ці то з хамствам, ці то з абразай беларускага, ці то з чарговай дурнотай мясцовай улады. Вось і зараз патэлефанаваў старэйшы сябра і расказаў гісторыю, што здарылася з ягоным будучым зяцем. Малады хлопец уладкаваўся на працу, а атрымаўшы першую зарплату, захацеў разам з калегамі адзначыць гэты факт. Як належыць пайшлі ў нейкі бар, там выйшла сварка з суседнім столікам. З'ява ва ўстановах падобнага кшталту нярэдкая і нават распаўсюджаная. Слова за слова і выйшлі на вуліцу „пагаварыць". Карацей, адбылася невялікая сутычка, у якой пацярпеў якраз вышэйзгаданы хлопец. Нехта выклікаў міліцыю, неўзабаве тая прыехала і забрала абодвух у пастарунак. Там пачалося „высвятленне" сітуацыі. На пацярпелага сталі крычаць. Хлопец спакойна выказаў абурэнне. І тут пачалася асноўная дзея. На авансцэну выйшлі два прапаршчыкі габарытнай знешнасці і без прыкмет інтэлекту на твары. Хлопцу заламалі рукі, зашчапілі кайданкі і сталі збіваць. Білі не проста, а з асаблівай жорсткасцю. Садысты ў пагонах папросту калечылі чалавека: білі па нырках, на руцэ разадралі вялікі палец ад астатніх. Ад страшнага болю 24-гадовы хлопец, які прайшоў у свой час службу ў войску, стаў плакаць і прасіцца, але гэта ніколькі не супыніла катаў. Урэшце міліцыянты, стаміўшыся „ад цяжкой працы", пакінулі сваю ахвяру на некаторы час у спакоі. Хлопцу ўдалося патэлефанаваць блізкім людзям. Тыя, дзякуючы нейкім сваяцкім ці сяброўскім сувязям ні то ў пракуратуры, ні то ў наменклатуры, здолелі хутка зарыентавацца і ўрэшце вызваліць няшчаснага. Адпускалі яго з пастарунка словамі „дзякуй сваім знаёмым, а то ўвогуле забілі б!". У медыцынскім пункце, куды павезлі збітага хлопца, яго таксама чакаў „цёплы прыём", па ўсім відаць доблесныя стражы правапарадку ўжо папярэдзілі сітуацыю. Першую медыцынскую дапамогу пацярпеламу нібыта аказалі, а вось атрымаць адпаведныя паперы, якія б фіксавалі збіццё, так і не ўдалося. Той, хто ведае сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі, зразумее ў чым справа. Так званая карпаратыўная салідарнасць паміж рознымі дзяржаўнымі структурамі адладжаная. Былі, канешне, выпадкі, калі медыкі адмаўляліся хаваць бандыцкія дзеянні міліцыі, але тады іх чакала сапраўднае выпрабаванне. Тут можна прыгадаць гісторыю, як прадстаўнік міліцыі збіў доктара ў Ваўкавыску.

У нармальнай дзяржаве ёсць яшчэ незалежны суд, які мог бы ўсталяваць справядлівасць і пакараць вінаватых. У нас гэта бессэнсоўна. Пацярпелы ў Гародні хлопец і не збіраецца падаваць у суд. Праўды ён там усё роўна не знойдзе. Вось зусім нядаўна ў Мінску „самы гуманны суд у свеце", як казаў адзін кінагерой, устанавіў, што актывіст „Еўрапейскай Беларусі" Андрэй Моўчан сам сябе жорстка збіў. Што тут казаць, калі нават кандыдатаў у прэзідэнты катуюць у турмах. Збіванне ж у міліцэйскіх пастарунках звычайных людзей даўно стала нормай і звыклай практыкай. Прыпамінаю, як адзін мой прыяцель звольніўся з міліцыі яшчэ гадоў дзесяць таму, бо не мог біць падлеткаў, з якімі па родзе службы даводзілася мець справу. А біць іх было неад'емнай і абавязковай часткай „працы".

Міліцыя і розныя яе структуры ў Беларусі вылучаны ў асаблівую касту. Вось, прыкладам, калі студэнтка-выпускніца выйдзе замуж за амапаўца, то яна можа заставацца па месцы яго жыхарства і вызваляецца ад абавязковага размеркавання. А калі выйдзе за інжынера ці настаўніка, то абавязкова мусіць ехаць туды, куды яе накіроўваюць на працу.

Схільнасць да здзеку над чалавекам закладзена ў многіх. Але калі ў дэмакратычнай краіне паліцэйскі ўсведамляе, што за перавышэнне службовых паўнамоцтваў ён можа страціць працу і нават апынуцца ў турме сам, то ў нас усё наадварот. І калі бачыш на экране, як дзецюкі ў форме з дзёбільным выразам твару на дзяржаўных святах разбіваюць галавой цэглу, яшчэ больш разумееш, што гэта атрады сапраўдных карнікаў, людзей, якія гатовыя толькі на адно — збіваць і забіваць іншых.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Ляляга

У творы Лукаша Гурніцкага „Dworzanin polski" адзін з яго XVI-вечных герояў так вось выказваецца аб жанчынах: „**W białejgłowie ma być coś pieszczonego, w miarę przystojnego żeńskiej niedużości**". Праўда, якія прыгожыя словы? Да сёння не магу сабе даравць, што вышэйпрыведзенай цытаты не прыгадаў я сабе перад... 8 Сакавіка. Хоць спозненую, прысвячаю яе ўсім дамам, асабліва тым з Беларусі. А чаму з Беларусі? А таму менавіта, што Беларусcю кіруюць адны цвёрдыя мужыкі. І хоць у беларускім парламенце і ва ўрадзе засядае нямала жанчын, дык да голасу дапускаюць іх ледзь раз у год. Вядома калі. Пасля ўсялякі слых пра іх прападае... аж да наступных урачыстых дзяржаўных святкаванняў Дня жанчын. Бо ў Беларусі праўдзіве найважнейныя мужчыны і іхнія праблемы. Ад таго бярэцца дазвол беларускіх мужыкоў на ўладу Аляксандра Лукашэнкі. Праблемы могуць быць розныя, ад палітычных да асабістых. Аб палітычных у гэты раз змаўчу, а калі гаворка пра асабістыя, то ж усіх і так не ахаплю. Праўда, для некаторых лучацца яны таксама з палітыкай, але і тыя паслядоўна абміну. Спынюся затое на адной, штораз больш паўсюднай праблеме — алкагалізме. Кранае ён перш за ўсё мужчын. Дзядзька, калі турбуе яго праблема, хапаецца за гарэлку. Так яго сканструявала Натура. Гэта значыць, хутчэй ён уцячэ, чым возьмецца за змаганне. Надаеў яму, скажам, Лукашэнкаўскі рэжым, мусіць выпіць. Пагневаўся на жонку, што аблаяла яго ад недарэкаў, мусіць выпіць. Але ў Беларусі, дзе ў рамках змагання з п'янствам увялі частковую прагібіцыю, здабыццё алкаголю — немалая праблема. Філосаф назваў бы яго праблемай праблем, значыць, метапраблемай. Аднак не трэба філасофскіх ведаў, каб, разабраўшы на часткі, зрабіць яе агульназразумелай. „Праблема" гэта толькі праблема: вырашыць яе „мэта"... значыць прытон, месца, дзе можна ўрэшце напіцца. А ў беларускім прытоне ёсць так, як на шыльдзе аднаго з вядомых мне польскіх пабаў: „У нас толькі адна праблема — у нас няма праблем!". На жаль, у Беларусі, калі „метапраблему" мужыкі паспяхова вырашаць, нечакана паяўляюцца чарговыя праблемы. Толькі што не дытчаць яны ўжо мужыкоў. Спраўляцца з імі мусяць жанчыны. Вось, хаця б такая справа, як дабудзіцца мужа на бадуне, каб паспеў на работу. Або як пагнаць напаўцвярозага брата на антыдзяржаўную маніфестацыю, каб урэшце штосьці ў краіне адмянілася на лепшае. Мне цяжка сказаць, з якім поспехам беларускія жанчыны спраўляюцца з гэтым пытаннем. Ведаючы аднак па сабе мужчынскі шавінізм, за якім звычайна стаіць разяватасць, думаю, што цяжка ім. Можа памог бы ім прыклад жанчын з Ганы, дзе выступіў эпіцэнтр пагрозлівай кабечай нямогласці званай ляльгай.

Ляляга кранае толькі жанчын і толькі тых, што могуць насіць посуд з вадой. Па ваду ў гэтай афрыканскай пустыннай краіне вандруюць яны нават больш за дзесятак кіламетраў. Абавязак гэта цяжкі і неадпаведны мужчынам. Яны маюць для абмеркавання больш важкія справы. Напрыклад, ці не было б больш слушна жыць бліжэй калодзежа. Вось, гэта сур'ёзнае пытанне! А трэба ведаць, што ваданоствам займаюцца выключна ганскія жанчыны. Носяць яны ваду ў каністрах, у бочачках, у гаршчочках. І заўжды на галаве. Кабеты з Ганы — як мулы. Патрапяць несці на галаве адразу ўвесь сямейны дабытак, не ўспамінаючы аб немаўлятах прывязаных да спіны і ўчэпленых да матчыных далоняў старэйшых дзяцей. Пагаворка „ўсё на маёй галаве" тут як найбольш адпаведная. Быццам бы гэта толькі традыцыя, але так моцна ўкаранелая ў іхняй ментальнасці, што яны не ў змозе падняць інакш чым на кончыку галавы нават пустой банaчкі з-пад арахісу. Можаце ўявіць драматычнасць сітуацыі, калі дарвецца да іх ляляга. Адразу трацяць раўнавагу. Аднак няма нічога кепскага, што б... Калі памор лялягі ахапіў большасць ганскіх жанчын, адбылося нечаканае. Мужыкі, пазбаўленыя чаю, пры якім вырашалі найбольш складаныя праблемы быцця, мусілі ўзяць справу ў свае рукі. Бо як жа жыць без вады? Супольным высілкам пакапалі ў сваіх вёсках калодзежы. А паколькі калектыўная праца прынесла ім задавальненне, жвава ўзяліся за палітыку. Бо ж штосьці ў іхняй краіне трэба змяніць. Перш за ўсё няспраўны, карумпаваны ўрад. Вось і ляляга!

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Сенсібілізаваць Інтэрпол



Можа, памятаеце снежань мінулага года і спыненне ў варшаўскім аэрапорце Акенце Алеся Міхалевіча, бежанца, палітвязня, аднаго з кандыдатаў у апошніх прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі. Пасля выезду са сваёй краіны ён выявіў, што яго ў турме катавалі. Беларускія ўлады звярнуліся ў Інтэрпол з заявай на росшукі яго за „знішчэнне маёмасці і ўдзел у беспарадках". Польскія службы, спыняючы яго на Акенці, спасляліся якраз на росшукі Інтэрпола, міжнароднай арганізацыі паліцыі, дапамагаючай органам крымінальнага праследу ў змаганні са злачыннасцю, да якога належаць 190 краін, у тым ліку Польшча і Беларусь. Пасля некалькіх гадзін высвятлення, пасля ўмяшання польскага МЗС і пракуратуры Алеся Міхалевіча звольнілі, а нават МЗС фундавала яму білет на далейшае падарожжа. Пры нагодзе аказалася, што на спіску Інтэрпола знаходзіцца каля чатырохсот беларусаў і што апазіцыйных дзеячаў, непакорлівых рэжыму Аляксандра Лукашэнкі можа быць больш. Пісаў я ў той час у „Ніве", што ў справе Алеся Міхалевіча і яго затрымання на Акенці праблема заключаецца не толькі ў г.зв. інфармацыйнай аклюзіі польскіх службаў такіх як паліцыя ці пагранахова, але малой уражлівасці датычнай праследаваных пад рознай падставай апазіцыянераў і не толькі рэжымам Лукашэнкі, але і іншымі краінамі, маючымі праблемы з дэмакратыяй.

Мінула ад здарэнняў на Акенці больш за паўгода і ў канцы чэрвеня дайшло да сустрэчы міністра ўнутраных спраў Яцка Ціхоцкага з генеральным сакратаром Інтэрпола Рональдам Нобле. Адной з галоўных тэм размовы было — як інфармавала камюніке МЗС — „працэдуры верыфікацыі інфармацыі аб асобах, якія могуць быць расшукваныя па палітычных прычынах". Рашуча было адзначана, што міжнароднае паліцыйнае супрацоўніцтва не можа выкарыстоўвацца для палітычных мэт такіх як праслед апазіцыянераў. У час прэс-канферэнцыі міністр Ціхоцкі адзначыў:

— Гаворка тут пра ўдасканальванне і паскарэнне працэдур звязаных з абменам і верыфікацыяй інфармацыі аб такіх асобах.

Абодва бакі звярнулі ўвагу, што вельмі важнай справай з'яўляецца ўдасканаленне верыфікацыі на ўзроўні генеральнага сакратарыята Інтэрпола, які вырашае аб росшуках канкрэтнай асобы, значыць, м.інш. увядзенні яе ў спісак расшукваных асоб на падставе інфармацыі з расшукваючай краіны.

Рональд Нобле запэўніваў:

— Буду рабіць усё, каб Інтэрпол не выкарыстоўваўся для праследу дысідэнтаў.

У статуце Інтэрпола запісана, што прыналежныя да арганізацыі краіны не могуць нікога расшукваць па палітычных прычынах, а паліцыі членскіх краін не могуць заяўляць у цэнтр іншых асоб чым тыя, якія расшукваюцца па крымінальных прычынах. Заявы правярае юрыдычны дэпартамент генеральнага сакратарыята. Як паказаў прыклад Алеся Міхалевіча, перш за ўсё гэты дэпартамент дасюль спраўна не дзейнічаў. Міністр Ціхоцкі пасля сустрэчы з генеральным сакратаром Інтэрпола адзначыў:

— Самае важнае, каб працэс верыфікацыі быў спраўны і хуткі.

Згодна з заявай Рональда Нобле аб удасканальванні працэдур інфармацыі аб расшукваных асобах міністры ўнутраных спраў краін згуртаваных у Інтэрполе размаўляць будуць у час лістападаўскай сустрэчы ў Рыме.

Калі я чытаў і прыслухоўваўся да выказванняў міністра Ціхоцкага і сакратара Нобле, мне здалося, што і гэтая міжнародная арганізацыя — Інтэрпол — моцна бюракратызаваная, а ўдасканаленне сістэмы верыфікацыі інфармацыі аб расшукваных асобах — працаёмкае. Можна толькі спадзявацца, што ў сітуацыі, у якой апынуўся ў снежні мінулага года Алесь Міхалевіч па віне Інтэрпола, не знойдуцца ўжо іншыя беларускія апазіцыянеры.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Лешак Шарэпка: *стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю значна менш, чым хацелася б*

Пасол Рэчы Паспалітай **Лешак Шарэпка** ацаніў стасункі паміж Польшай і Беларуссю як надзвычай недастатковыя. Пра гэта ён заявіў 28 чэрвеня на сустрэчы з грамадскасцю ў Магілёве, наведваючы міжнародны фестываль духоўнай музыкі „Магутны Божа".


http://www.minsk.polemb.net

## Стагнацыя эканамічных кантактаў

Першы для Лешка Шарэпкі візіт у горад над Дняпром насіў з большага пратакольны характар. Нягледзячы на тое, што ён — першая асоба, якая прадстаўляе Польшчу ў суседняй краіне, губернатар Магілёўскай вобласці Пётр Руднік па нейкіх прычынах з ім не сустракаўся. Кажуць, не было яго ў Магілёве. Таму найвышэйшай асобай з улады, з якой пасол меў перамовы, быў мэр горада Станіслаў Барадаўка.

„Гэта быў пратакольны візіт. Я мусіў сустрэцца з уладамі. Меркавалася, што будзе губернатар, але яго не было, не ведаю, чаму. Яшчэ адзін пасол хацеў прыехаць, але калі даведаўся, што не будзе сустрэчы з губернатарам, то адмовіўся", — распавёў Шарэпка на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці і апазіцыйных арганізацый Магілёва, што адбылася ўвечары таго дня перад заключным галаканцэртам фестывалю „Магутны Божа".

Як адзначыў галава польскай дыпмісіі ў Беларусі, на сустрэчы са Станіславам Барадаўкай былі закрануты пытанні інвеставання ў эканоміку Магілёва і вобласці. „Запрашалі інвестараў. Але мы не можам сказаць інвестару, што тут ты мусіш патраціць грошы. У нас прыватная эканоміка. Калі людзі даведаюцца, што змогуць зарабіць грошы, то будуць інвеставаць. Я скажу, што Беларусь мае ў Еўропе пэўны негатыўны імідж, які перашкаджае развіццю адносін", — заявіў Лешак Шарэпка.

Акрамя таго, паводле слоў пасла, Еўрасаюз мае базісныя рамкавыя дамовы з усімі краінамі на Усходзе, але толькі не з Беларуссю. „Цяжка развіваць адносіны, калі няма такіх базісных рамкавых дамоў", — заявіў пасол.

Але не ўсё кепска. Так, Шарэпка адзначыў, што некаторыя прадпрымальнікі з Польшчы інвеставалі свае грошы ў так званыя свабодныя эканамічныя зоны, дзе ўстаноўлены аблегчаныя падатковыя правілы, але не менш за 70% вырабаў павінна ісці на экспарт. „Яны робяць бізнес, і часцяком пасол не ведае, хто гэта робіць. Ёсць некалькі паспяховых інвестыцыйных ініцыятыў, напрыклад „Атлас"-„Тайфун", „Інкафуд", праекты ў мэблевай галіне. Але на даны момант я не ведаю якіх-кольвечы аграмадных сумесных прадпрыемстваў", — сказаў Лешак Шарэпка.

Паводле яго слоў, тавараабарот паміж дзвюма краінамі ў 2011 годзе склаў 2,4 млрд. долараў па беларускіх падліках і 3,2 млрд. долараў — па польскіх. Розніца ў лічбах абумоўлена рознай метадалогіяй падлікаў, якія выкарыстоўваюцца ў Мінску і Варшаве. У параўнанні з 2010 годам тавараабарот вырас, але, як адзначыў Шарэпка, цяпер ідзе на спад. „Магчыма, гэта звязана з тым, што ў першым квартале летась быў рост імпарту аўтамабіляў праз Польшчу ў Беларусь. Цяпер гэтага няма", — выказаў меркаванне пасол.

Разам з тым ён указаў на „аграмадны гандаль прыгранічны". „Шмат беларусаў купляюць у Польшы ўсё, што можна купіць. Гэта, дарэчы, супярэчыць таму, што кажуць, нібыта ў Польшчы цэны вышэй за беларускія. У буйных гандлёвых цэнтрах палова кліентаў гэта беларусы. І яны купляюць значна больш, чым я, напрыклад. Пэўна, для іх гэта прыбыткова", — адзначыў пасол. Паводле яго меркавання, гэта таксама ўплывае на павышэнне тавараабароту і дае залог развіццю адносін у будучым.

## Палітычна-візавы тупік

Адной з найбольшых перашкод у развіцці адносін паміж Беларуссю і Польшчай як сябрам Еўрасаюза з'яўляецца наяўнасць палітзняволеных, якіх аўтарытэтныя міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі за вязняў сумлення.

„Умовы для пачатку дыялогу не змяніліся. Усе вязні сумлення мусяць пакінуць турэмныя засценкі і быць рэабілітаваны. І мы хацелі б мець гарантыі, што праз месяц як іх вызваляць, яны зноў не трапяць у турму", — кажа пасол.

У выніку такіх прахалодных стасункаў заходнія краіны могуць наладжваць супрацоўніцтва выключна з грамадскім сектарам, а потым спрабаваць падключыць да нейкіх сумесных праектаў прадстаўнікоў дзяржаўнай улады Беларусі. Праўда, пакуль гэта вялікага плёну не прынесла.

„Нядаўна па просьбе прадстаўнікоў грамадства — Мілінкевіча, Лябедзькі, Някляева, Шушкевіча мы пачалі рэалізоўваць праграму „Мадэрнізацыйны дыялог для Беларусі". Месяц таму пачалі працу ў Мінску, прайшлі сустрэчы працоўных груп. Мы спрабавалі падключыць да гэтай працы прадстаўнікоў беларускай улады, але яны адмовіліся", — распавядае Шарэпка.

Сутнасць усіх палітычных праблем ва ўзаемадачыненнях паміж Польшчай і Беларуссю ён бачыць у розных каштоўнасцях, што вызнаюць бакі. „Галоўная размова тычыцца палітычных каштоўнасцей. У нас крыху іншыя каштоўнасці. Мы павінны размаўляць на адной мове, якая зразумелая адзін аднаму і мае адзін каштоўнасны базіс. Калі мы будзем гэта выконваць, то не будзе аніякіх праблем. Але вашы ўлады не гатовы да гэтага", — адзначыў Лешак Шарэпка для ўдзельнікаў сустрэчы.

Не абмінула размова і выбарчую кампанію, якая распачалася ў Беларусі і мусіць скончыцца абраннем новага складу парламента. Нягледзячы на тое, што грамадскія актывісты слушна называюць беларускі парламент недзеяздольным прыдаткам адміністрацыі Лукашэнкі, удзел у выкрыванні чакаемых фальсіфікацый падчас выбарчай кампаніі яны прыняць гатовы. І ўжо зараз імкнуліся нейкім чынам мінімізаваць будучы падман. Так, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Зміцер Салаўёў выказаў меркаванне, што ўжо ад пачатку трэба папярэдзіць на міжнародным узроўні сябраў выбарчых камісій, што яны абавязкова будуць унесены ў спіс неўязных у Еўропу, калі пойдуць на фальшаванне выбараў.

Аднак пасол звярнуў увагу на тое, што забарона на ўезд у Еўропу шэрагу беларускіх высокапастаўленых чыноўнікаў як праява маральнага асуджэння нячэсных чыноўнікаў мае і адваротны эфект — ужо ёсць група грамадскіх беларускіх дзеячаў, якім улады адпомсцілі, забараніўшы выезд з Беларусі.

„Акрамя таго ўзнікае праблема доказу фальсіфікацый і потым паўстае пытанне, звязанае з візавай забаронай. Гэта мае другі бок, бо калі ўлады знаходзяцца ў гэтым спісе, то яны не вельмі ахвотна размаўляюць з Еўропай адносна аблягчэння візавага рэжыму для сваіх грамадзян. Аргумент у іх такі — калі мы, улада, знаходзімся ў гэтым спісе, то нам напляваць якую магчымасць маюць грамадзяне Беларусі, каб выехаць за межы краіны", — адказаў польскі пасол.

Паводле Лешка Шарэпкі, у пытанні аблягчэння візавага рэжыму беларускі бок праяўляе абсалютную незацікаўленасць. „Летась у чэрвені Еўрасаюз прапанаваў распачаць размову, каб знізіць кошт віз для беларускіх грамадзян з 60 да 35 еўра, як гэта ёсць на Украіне і ў Расіі. Але ўжо год няма адказу на гэтую прапанову. Вашым уладам гэта не цікава", — сказаў пасол удзельнікам сустрэчы.

„Ёсць праблемы з чэргамі за візамі ў консульскі аддзел пасольства. Мы хацелі б павялічыць консульскі штат, але беларускія ўлады не даюць гэтага зрабіць. Яны кажуць, што гэтыя работнікі працуюць не на карысць Беларусі, што займаюцца „картамі паляка", — распавёў Шарэпка, адзначыўшы, што ў даным пытанні ў польскага боку „звязаныя рукі".

Згодна агульнага кантэксту пасольскага расповеду, на Захадзе з большага не ведаюць якім чынам развіваць стасункі з беларускім рэжымам, бо ні адно дзеянне пакуль не прынесла чаканага выніку. І цяпер у Еўропе з'явіліся сілы, якія мяркуюць, што лепей па пытаннях на Усходзе размаўляць не з Кіевам ці Мінскам, якія асабліва многім надакучылі, а з Масквой. „І яны былі вельмі задаволеныя вырашаць беларускае пытанне непасрэдна праз Маскву", — адзначыў кіраўнік польскай дыпмісіі ў Беларусі.

Працягваючы „расійскую" тэму ў адказе на падзяку, якую выказаў кіраўнік магілёўскага аддзялення Беларускай асацыяцыі журналістаў Генадзь Суднік за дапамогу Польшчы ў данясенні беларускага вольнага слова, Лешак Шарэпка адзначыў, што ўзровень свабоды слова ў Расіі значна вышэйшы за беларускі. І калі б сітуацыя са свабодай слова ў Беларусі падобная была б на расійскую, то ён „быў бы вельмі задаволены". „Я ведаю, што там ёсць кантроль, ёсць праблемы з дэмакратыяй, усё ёсць. Але адрозненне ўсё ж на іх карысць", — заявіў пасол.

## Спадзявайцеся на сябе!

Амаль гадзінная размова з прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці Магілёва не абышлася без падарунка Польшчы. Праўда, быў ён зроблены ў выглядзе петыцыі да прэзідэнта ІІІ Рэчы Паспалітай з просьбай аб гуманітарнай дапамозе, пад якой падпісаліся 39 магілёўцаў.

„Просім вас, браты-славяне, аказаць гуманітарную дапамогу натуральнымі малакапрадуктамі нізкай тлустасці (малако, кефір, тварог) без выкарыстоўвання ў іх біядадаткаў і прэміксаў, г.зн. кальцыю, вітаміну С, лактозы. Бо малаказаводы Беларусі не пастаўляюць натуральныя прадукты нізкай тлустасці ў гандаль, а толькі з дадаткамі і ў дарагой упакоўцы, ад якіх у спажыўцоў нараканні на неўспрыманне іх з-за фізіялагічнага, псіхалагічнага і матэрыяльнага фактара", — адзначалася ў петыцыі да польскага прэзідэнта.

„Наша ўлада ігнаруе забеспячэнне насельніцтва натуральнымі малакапрадуктамі без медычных прэпаратаў, нягледзячы на калектыўныя звароты да ўлады і вытворцаў", — указвалі 39 падпісантаў.

Яны спадзяюцца, што прэзідэнт Польшчы працягне „братэрскую руку дапамогі ў такі крытычны для беларусаў перыяд" і арганізуе забеспячэнне „альтэрнатыўнымі натуральнымі малакапрадуктамі без выкарыстання медпрэпаратаў". „Бо нашы прадпрыемствы-манапалісты не жадаюць чуць спажыўцоў у пагоні за звышпрыбыткамі", — гаворыцца ў дакуменце.

Паводле ініцыятара звароту да прэзідэнта Польшчы муляра Аляксея Паўлоўскага, яго неаднаразовыя лісты ў разнастайныя беларускія інстанцыі аб неабходнасці паставак у магілёўскія магазіны танных малочных прадуктаў без дадаткаў засталіся безвыніковымі.

Прымаючы петыцыю, Лешак Шарэпка адзначыў, што ў Еўропе найгалоўнейшая каштоўнасць — гэта адказнасць за сябе. „У нас таксама шмат бедных, незабяспечаных, якія таксама не маюць што есці. Вы надта многа чакаеце ад дзяржавы — сваёй ці чужой, але вы павінны больш спадзявацца, перш за ўсё, на сябе. Бо калі вы не будзеце спадзявацца на сябе, то нічога ў гэтай краіне не зменіцца", — заявіў ён і гэтымі словамі выклікаў апладысменты ўдзельнікаў сустрэчы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Зялёная старонка добрых вятроў

У Нараўчанскай гміне можна захапляцца дзікай незаняволенай прыродай ды незабруджаным асяроддзем; такіх месц усё менш у Еўропе. Зараз тут шмат агратурыстычных гаспадарак, цяпер яны амаль у кожнай вёсцы.

Каб прыцягнуць сюды больш турыстаў, у Старым Двары на беразе Семяноўскага возера пабудавалі асяродак для перш-наперш летняга адпачынку плошчай каля сямі гектараў. Тут ёсць, між іншым, вялікі пляж, амфітэатр, спартыўныя пляцоўкі, пляцоўкі для дзіцячых гульняў, пляцоўкі пад вогнішчы. Пры асяродку шмат месца адвялі для аўтамашын.

У амфітэатры ў летнія суботнія і нядзельныя вечары адбываюцца канцэрты і іншыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

У 2009 годзе ў Стары Двор пабудавалі асфальтавую дарогу ад ваяводскай шашы з Юшкавага Груда ў Новае Ляўкова і Нараўку.

— Нараўчанская гміна прыняла назву Зялёнай старонкі добрых вятроў. Вецер дзьме ў кожную пару года і тады можна плаваць па возеры, — сказаў нараўчанскі войт Мікалай Павільч. — Гміна стварыла партал www.turystyczna.narewka.pl на трох мовах: польскай, нямецкай і англійскай. Турыст знойдзе там усе практычныя інфармацыі: дзе зняць кватэру, пазычыць байдарку, у каго купіць рэйс суднам і ў якую пару ад'язджаюць аўтобусы ПКС і прыватных фірм.

Дзеля зацікаўлення турыстаў гмінныя ўлады прыдумалі розныя віды рэкламы: па тэлебачанні, прэсавыя і на білбардах. Арганізуюць спаборніцтвы на Кубак зубра. Намецілі арнітапагічную сцяжынку для любіцеляў птушак. Пабудуюць новыя вышкі з шырокай панарамай у Кругліку, Марушцы, Новай Луцэ, Бярнацкім Мосце і ў Старым Ляўкове. У Нараўцы на беразе ракі будзе прыстань для байдарак.

Семяноўскае возера гэта рай для вудзільшчыкаў. Ужо можна пачуць легенды пра злоўленыя ў вадасховішчы велізарныя сомы і шчупакі.

Варта дадаць, што ля Семяноўскага возера пабудуюць гасцініцу, пансіянаты ды гастранамічныя аб'екты.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Карэспандэнт і „Ніва"

Я маю крыху часу і заняўся распаўсюджваннем 27-га нумара „Нівы" ад 1 ліпеня г.г. Наведаў крамы ГСу ў Старым Ляўкове, Плянце і Нараўцы, у якіх у продажы было 15 экземпляраў нашага роднага тыднёвіка. Я знайшоў чытачоў-пакупнікоў на ўсе пятнаццаць асобнікаў. Газету купілі, між іншым, асобы, пра якія „Ніва" пісала ў публікацыі „Найлепшыя скульптары". „Ніву" купіў таксама шэф керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове. Нядаўна ж, у чэрвені, фабрыку наведалі ўдзельнікі XXVI Сустрэч „Зоркі" і зрабілі супольны здымак з Аляксандрам Бандаруком.

Карэспандэнт „Нівы" заахвочвае купіць беларускі тыднёвік сваіх знаёмых. Расказвае, што, напрыклад, у 27-м нумары тыднёвіка могуць прачытаць пра Гайнаўку і Нараўку.

## Летам на вуліцах

З ліпеня гэта года хадзіў я па вуліцах Гайнаўкі. Сталў сонечны ды гарачы дзень. Шпаркім тэмпам ішла перабудова вуліцы 11 Лістапада ў цэнтры горада (яна пачынаецца ад скрыжавання з вуліцай Баторыя). Хутка ідзе тут пракладка шырокага тратуара.

Быў я ў Гарадской управе і распытваў пра перабудову маставых на іншых вуліцах. Мне сказалі, што да канца ліпеня гэтага года новыя асфальтавыя маставыя атрымаюць дзесяць вуліц, у тым ліку Старая Юдзянка, Боцяня (Бусліная) на пасёлку Падлясе, Мазуры на аднайменным пасёлку, Пазёмкавая (Сунічная), Малінавая і Каменная на пасёлку Пяскі. Усе працы на іх ідуць з вялікім поспехам.

**(яц)**

# БЕЛАСТОЦКІ ДАВЕДНІК

Размова са **Славамірам НАЗАРУКОМ**, гарадскім радным Беластока, ініцыятарам выдання інфарматара „**Беласток. Турыстычны даведнік**".



*— Адкуль паявілася задума выдаць турыстычны даведнік пра Беласток на беларускай мове?*

— Гэтая задума выйшла вельмі проста. Ужо некалькі гадоў таму выйшлі такія даведнікі на польскай мове, а пасля паказаліся яго версіі на іншых мовах: англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, рускай, эсперанта. І я падумаў, што чагось тут бракуе, калі на Беласточчыне шмат беларускага насельніцтва, якога ніхто сюды не прывозіў, толькі мы тут спрадвечна. І што трэба вакол гэтай справы пахадайнічаць — мне, як раднаму Гарадской рады.

*— Перад кім трэба было хадайнічаць?*

— Я падаў прэзідэнту горада інтэрпеляцыю, бо гэтымі справамі займаецца Бюро прамоцыі горада, якое падлягае прэзідэнту, як і ўсе справы датычныя горада, як дарогі ці школы. Я, менавіта, напісаў інтэрпеляцыю, каб выпусціць і беларускую версію такога даведніка і атрымаў адказ, што гэта не стварае ніякіх праблем і будуць запушчаны працэдуры для рэалізацыі гэтай справы. Але справа такая крыху складаная, бо трэба аб'явіць таргі, да якіх прыступаюць розныя фірмы, з ліку якіх, паводле прынцыпаў, трэба выбраць такую, якая выканае працу за найменшыя грошы. Гэта забірае крыху часу. Да таго ж у ранейшых іншамоўных версіях было шмат перакладчыцкіх памылак і трэба было іх выпраўляць, перадрукоўваць, а гэта зноў заняло час, бо на тыя праекты ішлі еўрасаюзныя грошы, іх трэба было выканаць тэрмінова, таму нашай версіі прыйшлося пачакаць. І пры нагодзе атрымалася невялікая асечка, бо Міхась Сцепанюк з Беластоцкага радыё, калі даведаўся, што рыхтуецца беларускамоўнае выданне даведніка, звярнуўся да мяне, я яму пару слоў сказаў, у тым ліку і пра тэрмін яго выпуску. Мне былі абяцалі, што даведнік паявіцца пад Дні Беластока, што адбываюцца 24 чэрвеня, але гэта мела быць у мінулым годзе. Гэтае інтэрв'ю пайшло ў эфір бадай у маі, а пасля атрымалася так як атрымалася. Такая была прычына адтэрміноўкі, іншых яе падтэкстаў не было — папросту зацягнуліся фармальныя справы. Да таго ж фірма, якая выйграла таргі на выданне беларускамоўнай версіі, з Вроцлава, а гэта таксама патрабуе больш складаных кантактаў.

Калі ўжо даведнік паказаўся, тыражом у паўтары тысячы асобнікаў, я зайшоў у Бюро прамоцыі Беластока, што па вуліцы Добрай. Мне там сказалі, што калі тыраж даведніка разыдзецца, тады не будзе ніякай праблемы, каб яго дадрукаваць, бо гэта ўжо мала каштуе, калі ёсць каркас выдання і патрабуюцца толькі невялікія актуалізацыі.

*— А хто распаўсюджвае гэты даведнік — Бюро прамоцыі?..*

— Так.

*— А куды яны яго кіруюць? Я тут маю на думцы пагранпераходы і консульствы, каб ён трапляў у рукі тых, хто ў Беласток напраўляецца.*

— Я быў у нашым консульстве...

*— У якім, бо я, апрача беларускага беластоцкага, маю на думцы і польскія консульствы ў Гродне і Брэсце?..*

— Гэтую справу, па-мойму, трэба наладзіць. Я пра гэта згадваў у Бюро прамоцыі, але яны мне сказалі, што яны гэтым не займаюцца, што кантакты з замежжам ладзіць іншы гарадскі суб'ект, але я пастараюся высветліць гэтую справу. Я быў у Генконсульстве Беларусі ў Беластоку, пакінуў якіх дваццаць-трыццаць экземпляраў даведніка і сказаў, што калі трэба будзе, дык падкіну больш. Я даставіў таксама шмат гэтых даведнікаў да вас, у „Ніву", у Радыё Рацыя занёс. У Цэнтры праваслаўнай культуры таксама пакідаю і бачу, што людзі бяруць, ёсць запатрабаванне.

У Бюро прамоцыі Беластока паведамілі мне, што яны будуць прапанаваць даведнік на ўсіх мерапрыемствах, дзе вядзецца прамоцыя горада.

*— Можа і ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве, якое ладзіць шмат беларускіх мерапрыемстваў.*

— Я быў у Таварыстве, занёс туды некалькі дзесяткаў асобнікаў даведніка. Якраз быў старшыня Ян Сычэўскі, якому я запрапанаваў тыя даведнікі. А ён мне адказаў, што ён ужо мае адзін экземпляр і ў мяне склалася такое ўражанне, што ён больш не хоча. Я ўсё ж такі пакінуў там дзесяць штук, але ж я чалавек дарослы і здагадваюся, што ў душы майго суразмоўцы. Не ведаю, якая такому стаўленню прычына, але я так адчуў.

*— Мяне гэта дзівуе, бо ў іх найлепшыя кантакты з Беларуссю, асабліва з Гроднам.*

— І мяне гэта здзіўляе, але спадзяюся, што калі хто зацікаўлены гэтай справай, той скантактуецца з Бюро прамоцыі ці непасрэдна са мною і даведнік знойдзе дарогу да сваіх адрасатаў.

*— Я думаю, што ўсё ж такі Бюро прамоцыі павінна быць галоўным суб'ектам распаўсюджвання даведніка. Гэта ж не так ячшэ даўно Беласток хадайнічаў за званне Еўрапейскай сталіцы культуры і ў гэтым ракурсе даведнік быў бы добрым крокам у еўрапейскім напрамку, хаця можа хто не лічыць Беларусі акурат Еўропай.*

— І я лічу, што добра было б каб даведнік трапляў у рукі тых людзей, якія прыязджаюць на Беласточчыну, хаця, напрыклад, калі гаварыць пра пагранпераходы, дык некаму трэба гэта арганізаваць. Не ведаю, як гэта наладзіць тэхнічна, аднак напішу я такую просьбу прэзідэнту, каб прыняць такія меры, якія б дазволілі прапанаваць даведнік і на пагранпераходах.

*— У мяне больш пытанняў наконт даведніка няма, але можа Вы хочаце дадаць нешта больш пра гэтую справу.*

— На маю думку, было б нармальна, калі б такі даведнік паказаўся без хадайніцтва раднага, які лічыць сябе беларусам — была б гэта нармальнасць. Нармальнасць ужо ёсць, хаця б у тым, што гэтае выданне пабачыла свет і што не было пры гэтым ніякіх праблем. Калі б нас, ад нашага асяроддзя, не было ў гарадскіх структурах, дык мо справы выглядалі б інакш, можа не спецыяльна, але ніхто на гэта не звяртаў бы ўвагі. Я быў ініцыятарам прысваення імя Тамары Саланевіч скверу побач рэчкі Белай. Мы ў меншасці, і трэба на нашы справы звяртаць увагу больш́асці.

Таксама я хадаўнічаю за тое, каб у гарадскім календары, які Беласток выпускае ўжо ад некалькіх гадоў, былі пазначаны святы не толькі паводле грыгарыянскага календара, але і паводле юліянскага. Спадзяюся, што калі восенню выйдзе каляндар на 2013 год, у ім будуць пазначаны і галоўныя праваслаўныя святы; думаю, што гэта таксама павінна быць нармальнасцю, што гэта павінна ствараць дадатковае зацікаўленне Беластокам людзей звонку.

*— Дзякую Вам за размову і, асабліва, за патрэбную ініцыятыву.*

**Гутарыў і фатаграфаваў**
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Юбілей на „Купальночцы”

Былі віншаванні са сцэны, торт і падарункі ад іншых калектываў. Так у час сёлетняй „Купальночкі” ў Залуках адзначалі дзесяцігоддзе мясцовага дзявоцкага эстраднага калектыву „Калінка”. Як і падыходзіць да свята Купалы, хлопцы скакалі за вянкамі ўкінутымі дзяўчатамі ў Супрасль. Шукалі таксама папараць-кветку. „Калінка” выступіла ў каляровых вянках на галовах. Сем стройных, вельмі прыгожых дзяўчат паявілася на прышкольнай сцэне ў новых, белых строях з кветкавай арнаментыкай і карункамі. Сяброўка „Калінкі” Багуся Каранкевіч сказала „Ніве” перад выступам:



— Я ў калектыве ад яго пачатку. Гэта файны досвед, тыя нашыя сустрэчы і выступленні. Цяпер ужо спяваем па ўсёй Польшчы: ад мора аж да гор. Часам выбіраем песні, якія перакладаем на нашу мову, з сучаснай аранжыроўкай. Падабаецца, значыць, у нас атрымліваецца. Нашы сукенкі — падарунак Гарадоцкай гміны на наш юбілей. Раней мы мелі крыху даўжэйшыя, з Беларусі.

Кацярына Харужая і Паўліна Лех расказвалі ў адзін голас:

— Узнікненне нашага калектыву гэта была папраўдзе ініцыятыва старэйшых жанчын з калектыву „Каліна”. Нам было ў той час па 12-13 гадоў, а можа і менш. Пачалі мы сустракацца на рэпетыцыях у тутэйшай школе. Чэрпалі песні ад старэйшых і выконваем іх у больш сучаснай апрацоўцы. Спадарыні з „Каліны” заўсёды нам падказваюць нейкія задумы. Канцэртуем разам. Калі запрашаюць іх кудысьці, запрашаюць і нас, і наадварот. Калісьці мы спявалі ў строях, пашытых нам нашымі бабулямі, а цяпер у новых, якія мы самі праектавалі. Ёсць на іх узоры кветачак з нашых лугоў: ружы, васількі, каліна. Карункі на рукавах таксама звязаны з Падляшшам і нашай беларускай культурай.

Агнешка Паплаўская дадала:

— Добра памятаю пачаткі. Кожная з нас была тады ў пачатковай школе. Нашы бабулі забралі нас на адну са сваіх рэпетыцый, каб мы крыху прыгледзеліся, як гэта выглядае. Нам вельмі гэта спадабалася. І падумалі, што файна было б таксама спяваць, працягваць гэтую традыцыю. І так пачалі мы маленькімі крокамі. І цяпер спяваем аб тым, што нас акаляе тут у вёсцы, аб жыццёвых справах. Спяваем і вясёлыя, і сумныя песні. Калі пачыналі, спявалі мы пад акампанемент гармоніка, цяпер — больш сучасна, да музычных аранжыровак. Наш інструктар Віктар Леанкевіч нам падыгрывае крыху, але галоўным чынам засяроджваемся на музычных аранжыроўках з запісаў.

Ад некалькіх гадоў апрача залучанскай „Калінкі” выступае таксама „Калінка” з Беластока, якая таксама адзначала свой юбілей, адно што пяты. Абедзве „Калінкі” выраслі з залучанкіх каранёў. Каторая з іх — тая сапраўдная? Пра гэта мы спрабавалі даведацца ў дзяўчат святкуючых у Залуках. Агнешка Паплаўская:

— Так атрымалася. Мы спяваем ад дзесяці гадоў. У калектыве сем дзяўчат, шэсць спявае ад пачатку. Я думаю што „Калінка” гэта тая, залучанская. Як там з той беластоцкай, не ведаю, мы гэтым не цікавімся.

Віктар Леанкевіч не можа нахваліцца дзяўчат:

— Нам вельмі прыемна працуецца разам. Дзяўчаты пільна прыслухоўваюцца да заўваг, стараюцца карыстацца імі і выконваць песні як найлепш.



Разам з захадам сонца пад залучанскай сцэнай паяўлялася штораз больш людзей. Некаторыя, таксама з навакольных вёсак, паспелі толькі пераапрануцца пасля працы ў полі. Залучанка, 73-гадовая Аліна Парфенюк успамінала ў размове з намі:

— Калісь у нас не адзначалі ночы Купалы. Калі пачалі такое свята арганізаваць, усе ездзілі ў Белавежу. А нам туды далёка, не маем транспарту, дык некалькі гадоў таму, недзе з восем, падумалі, што мы таксам можам, што недалёка ад Залук плыве Супрасль, лёгка да яе дайсці праз кладку, а тут у вёсцы ёсць сцэна. Для маладых дзяўчат і хлопцаў гэта атракцыён. Заляцаюцца адны да адных. Дзяўчаты пускаюць вянкі, а хлопцы кідаюцца па іх і ловяць. Некаторыя хлопцы нават выхаўлены вянок закладваюць на руку і скачуць па наступныя! Летась дык нават адзін хлопец са сцэны прызнаўся ў каханні дзяўчыне, перад народам даў ёй пярсцёнак. Пасля яны павянчаліся.

Міраслава Антановіч з калектыву „Асенні ліст” у сваю чаргу прыгадала:

— Мы таксама скакалі праз агонь, частаваліся. Можа не было аж так багата, але і мы святкавалі. Рабілі мы купальночку на гары каля Меляшкоў. Вянкі таксама вілі, хаця ўжо папараць-кветкі не шукалі, бо было далёка ад лесу. Вянкоў таксама не кідалі ў ваду, бо ў Меляшках няма рэчкі.

Віктар Фідзюкевіч з гарадоцкай капэлы „Хутар”:

— Я не меў шчасця скакаць у ваду па вянок і так знайсці сабе нарачоную, а пасля можа і жонку. У вёсцы, адкуль я родам, у Шудзялаўскай гміне, такой традыцыі не было. Дарэчы, ва ўсім Сакольскім павеце гэтае свята неяк не прынялося. Проста сустракаліся мы ў той час над рэчкай, бліжэй знаёміліся. Цяпер, як я гляджу, неяк ніхто не прызнаецца да таго, каб пасля таго як зловіць вянок, пазнаёміўся з дзяўчынай, якая стала б пасля яго жонкай.

З гарадоцкім ансамблем „Асенні ліст” выступіў Генадзь Шэмет. Падрыхтавалі яны на гэты вечар спецыяльны рэпертуар на словы беларускага, памерлага ўжо, паэта Сяргея Новіка-Пеюна:

— Купальская ноч гэта язычніцкае свята, калі дзяўчаты і хлопцы знаёміліся бліжэй. Я памятаю, як са студэнтамі на азёрах Віцебшчыны мы кідаліся за вянкамі, скакалі праз агонь. Калісь гэта было такое індывідуальнае свята. Не было такіх магчымасцей для святкавання як цяпер, такой гукаапаратуры, усіх такіх ларкоў. Проста: збіралася моладзь, шукала папараць-кветку, паспявала, павесялілася.

Войт Гарадоцкай гміны быў поўны гонару:

— Наша гміна надзвычай багатая ў музычныя калектывы. Залукі — асаблівая вёска. Тут узнікаюць калектывы адзін за адным: „Каліна”, „Калінка”, „Каліначка”. Можам ганарыцца, асабліва „Калінкай”. Гэты калектыў ангажуецца ў прамоцыю гміны на Падляшшы і ва ўсёй Польшчы.

У час залучанскай „Купальночкі” між іншым можна было прыняць удзел у латарэі, грошы з якой будуць прызначаны на першы дыск „Калінкі”.

## У Масеве на Ануфрыя

Ужо трэці чарговы год у Масеве (Нараўчанская гміна) адбыўся народны фэст. Тут па традыцыі 25 чэрвеня адзначаюць свята ў гонар святога Ануфрыя. Калісь Масева належала да Ціхавольскага прыхода; Ціхаволя зараз знаходзіцца за дзяржаўнай мяжой у пяці кіламетрах ад Масева.

Мясцовыя старажылы яшчэ памятаюць, як даўным-даўно ездзілі на Ануфрыя ў Ціхаволю. Яшчэ зараз пасля ўстанаўлення дзяржаўнай граніцы жыхары Масева адзначалі ў сябе гэтае свята, але святкаванні былі прыпынены па загадзе тадышніх улад і толькі тры гады таму іх вярнулі і жыхары Масева зноў святкуюць, хаця цяпер належаць яны да Нараўчанскага прыхода.

Дзеля выгады фэст адбыўся ў нядзелю, 24 чэрвеня. Спрыяла цёплае, сонечнае надвор'е і пасля поўдня ў Масева наехала многа народу з цэлай гміны, каб пабачыць выступленні аматарскіх калектываў. На сцэне ў Масеве гучалі пераважна беларускія песні ў традыцыйным і сучасным выкананнях.

Вельмі прыгожа спявалі „Цаглінкі” з Ляўкова, „Нараўчанкі” з Нараўкі і гурт „Хутар” з Гарадка. У сучасным стылі выступіў квінтэт „Луна” з Беластока. Гледачы не шкадавалі апладысментаў спевакам. Прысутным надзвычай спадабаўся інструментальны тэрцэт з Беластока, які віртуозна іграў цыганскія мелодыі. Радавалі публіку дзяўчаты з Рыбалаў і маладая салістка з Гайнаўкі.

Было на што паглядзець, хоць ад дэцыбелаў забалелі вушы. Магчыма, што за мяжой, у Ціхаволі, пачулі гэтую музыку. Мой калега так захапіўся Масевам, што нават склаў верш на беларускай мове і вырашыў даслаць яго ў „Ніву”.

### У Масеве

*У Масеве таксама жывуць людзі*
*І кожны год Ануфрыя святкуюць,*
*Народны ладзяць фэст*
*– танцуюць і пяюць,*
*Традыцыю сваю шануюць.*
*Гасцей сюды з'язджаецца нямала,*
*На вуліцы машын не палічыць.*
*Тут Гайнаўка, тут Нараўка, Ляўкова,*
*А за мяжой святкуе Ціхаволя.*
*А з Масева да Ціхаволі недалёка –*
*Усяго пяць кіламетраў будзе.*
*Дзяржаўная мяжа не дазваляе*
*Свабодна ехаць на святок у Ціхаволю.*
*Чакаюць у Масеве артыстаў*
*з Беларусі,*
*Бо песню добрую тут вельмі любяць.*
*Шуміць навокал бор сасновы*
*Аб працы, радасці і дружбе.*
*І толькі часам, калі прыйдзе бура,*
*Стары лес раптам загамоніць,*
*Аб тым, як некалі чужыя нелюдзі*
*Спалілі Масева дашчэнту, да асновы.*
*На злосць фашыстам Масева жыве*
*І кожны год Ануфрыя святкуе.*
*Народ танцуе, весела пяе,*
*Традыцыю сваю шануе.*

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## У Гайнаўцы

Летам людзі часцей выходзяць на вуліцу або ў парк. Маладыя і старэйшыя асобы ходзяць на прагулку, а калі стомяцца, разглядаюцца, каб дзе прысесці на лавачцы.

Гарадскія ўлады ў Гайнаўцы задбалі пра новыя, прыгожыя лавачкі на шматлікіх вуліцах, у гарадскім парку ў раёне вуліц Белавежскай, Паркавай, Арміі Краёвай ды ў двух скверыках. Найбольш лавачак паставілі на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Баторыя, Ліпавай, Дварцовай і ў пачатку вуліцы кс. Верабея.

Лавачкі патрэбныя. Зараз у Гайнаўцы жыве многа старэйшых людзей. Яны ходзяць па гарадскіх вуліцах, прытомяцца ды тут жа адпачываюць, каб зноў падацца ў дарогу.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі






Фота Ганны Кандрацюк

# Гліна, цэгла і мы

З інжынерам **Яцкам Стэфанякам** мы пазналі ўвесь працэс вырабу цэглы

Удзельнікі 26 Сустрэч „Зоркі” наведалі фабрыку будаўнічай керамікі ў Старым Ляўкове 26 чэрвеня 2012 г. Спачатку мы сустрэліся з дырэктарам прадпрыемства Аляксандрам Бандаруком. Ён расказаў пра пачаткі фабрыкі і пра яе сённяшні дзень. Цяпер яна дае працу 120 асобам. Фабрыка працуе ўжо 40 гадоў. Ляўкоўская фабрыка спецыялізуецца ў вырабе цэглы з гліны. Яна з'яўляецца адной з найбольшых керамічных фабрык у Польшчы. Як сказаў нам дырэктар Бандарук, гліны ў Ляўкове хопіць яшчэ на некалькі дзесяткаў гадоў. Пасля мы наведалі ўсе цэхі фабрыкі і пазнаёміліся са спосабам вырабу цэглы. Нягледзячы, што ў наш пансіянат было шэсць кіламетраў, мы вярнуліся пешшу. Па дарозе мы маглі назіраць і захапляцца краявідамі Нараўчанскай зямлі. На кожным кроку мы спатыкалі прыгожыя будынкі з ляўкоўскай цэглы. Я думаю, што гэтая экскурсія пашырыла нашыя веды на тэму роднай зямлі.

**Лукаш Марчук**

— інфармацыя ўзнагароджаная „Зоркай” — Рэдакцыя ***„Папля”***, *II клас гімназіі ў Нараўцы*




















# Як знайсці ваду і быць здаровым!

Ужо на другі дзень пабыўкі мы наведалі этнаграфічную выстаўку Барыса Казлоўскага. Убачылі мы тут прадметы, якімі ў штодзённым жыцці карысталіся беларусы. Хадзілі мы таксама па лясной галерэі, якую стварыў наш гаспадар. Звяры былі з кардону, але вельмі напаміналі сапраўдных. Спадар Барыс паказваў нам многа цікавага, напрыклад, як пры дапамозе вярбовай галінкі знайсці ў зямлі ваду. Маглі мы парэзаць ручной пілкай дровы, як гэта рабілі нашы продкі. Былі ў кузні і пабачылі традыцыйную падляшскую хату, у якой заўсёды былі кросны. Спадар Бора расказаў нам як зберагчы сваё здароўе. Чалавек павінен заўсёды пазбягаць стрэсу і есці чыстую яду. Думаю, што час, праведзены з Барысам Казлоўскім, быў не толькі цікавы, але і карысны.

**Максім Фіёнік**

(рэдакцыя газеты *„Наша суполка”*, *чацвёртаы клас КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*)

## КУТОЧАК балельшчыка Еўра-2012

Наша рэдакцыя найбольш балела за каманду Партугаліі. Мы тады верылі, што яна пераможа. Ад сябе мы падрыхтавалі ім воклічы:

1. **Партугалія „the best” — пераможа Еўра-фэст!!!**
2. **Чэхія ў гэтым дапаможа — Партугалія пераможа!!!**
3. **Партугалія ў гэтым годзе на перадзе і на возе!!!**

Адзін з нашых рэдактараў прыдумаў песню:

**Цешацца палякі,**
**Цешыцца Плятыні,**
**Што тут у Варшаве,**
**Еўра адчынілі!**

**Польшча, Польшча гооола!**
**Пухне дух кіболя!**
**Польша ў гром ідзе,**
**Слава краіны расце!**

Рэдакцыя „Учора, сёння, заўтра” — *Аляксандра Варшыцкая, Адам Харкевіч, Адам Сцепанюк, Крыстыян Паскробка, Куба Тымашэвіч*

# Найбольшая трэма, калі на публіцы бацькі!

*Рэдакцыя газеты „Учора, сёння, заўтра” гутарыць з акцёркай Іаанай Стэльмашук.*

***У.С.З.: — Калі Вы адчулі і зразумелі, што хочаце стаць акцёркай?***

***Іаанна Стэльмашук:*** — Усё пачалося са школьных гадоў. Я прымала ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах і выступала ў школьных спектаклях. А потым, калі пачала я дарастаць, падумала, што тэатр гэта мая дарога...

***У.С.З.: — А ці былі ў Вас яшчэ іншыя мары, планы?***

**І.С.:** — Я заўсёды марыла, каб знайсці сваё месца ў мастацтве. Тэатр гэта дапаўненне маіх мастацкіх мараў, таму што я займалася яшчэ маляваннем, музыкай. Аднак тэатр найбольш мяне захапіў, таму я і рашыла ісці гэтай дарогай.


Фота Ганны Кандрацюк

***У.С.З.: — Як успамінаеце свой школьны тэатр?***

**І.С.:** — Я заўсёды хацела іграць штосьці жывое і нешаблоннае. Калісьці ў школе мы рыхтавалі лінейку пра Міцкевіча. Настаўніца прызначыла мне галоўную ролю вядучай, аднак я папрасіла яе, каб дазволіла мне іграць ролю Чорта.

***У.С.З.: — Ці беларускія традыцыі, мова былі важныя ў Вашай сям'і?***

**І.С.:** — Так, вельмі важныя. Мае бацькі — беластачане. Мама не размаўляе па-беларуску, але яна свядомая сваіх каранёў. Бацька размаўляў у сям'і па-беларуску. У час, калі я хадзіла ў школу, не было яшчэ ўрокаў беларускай мовы ў Беластоку. Такую магчымасць меў мой малодшы брат, які пайшоў у беларускі садок. Я сама пачала вывучаць мову, прасіла сваю бабулю, каб яна мяне папраўляла, калі буду дрэнна гаварыць. У хаце мы гаварылі на дыялекце ад Баброўнік, па-просту.

***У.С.З.: — Ваш спектакль „Я ў полі вэрбой расла” — па-падляшску. Як гэта ў Вас атрымалася?***

**І.С.:** — Гэта крыху складана, але яшчэ ў ліцэі я пасябравала з людзьмі з ЗБМ, якія натуральна размаўлялі па-свойму. Іх прыклад быў для мне матывуючым. Калі мы сустракаліся, я вучылася мове. Таксама мой хлопец з Бельска. А калі ідзе пра сам спектакль, многа дапамог мне Ян Максімюк з Прагі. Ён пераклаў для мяне манадраму, слухаў як гавару, папраўляў націскі.

***У.С.З.: — Якія пытанні Вы атрымалі ў час уступных экзаменаў на Тэатральную акадэмію?***

**І.С.:** — Кожны кандыдат праходзіць тры этапы: трэба падрыхтаваць верш, заспяваць песню, пасля паказаць свае эмоцыі, паказаць што сапраўды ты ўмееш і не баішся на сцэне. Я заспявала беларускую песню белым галасам і гэта спадабалася камісіі.

***У.С.З.: — Ці Вы хвалюецеся перад выступленнем?***

**І.С.:** — Так, а найбольшая тады, калі сярод публікі сядзяць мае бацькі. Сёння я выступала перад гімназістамі і таксама мела вялікую трэму.

***У.С.З.: — Ці проста іграць у тэатры аднаго акцёра і чаму Вы рашыліся на такую форму мастацкага выяўлення?***

**І.С.:** — Гэта сапраўды нялёгка, усё залежыць ад цябе самога. Бо калі іграеш з партнёрам, ён можа цябе выручыць у цяжкі момант. А так трэба ўвесь час трымаць напругу, канцэнтрацыю, ісці па поўнай праграме.

***У.С.З.: — Як ацэньваеце маладых акцёраў, якія выступаюць у школьным тэатры?***

**І.С.:** — Вельмі добра. Я мела магчымасць працаваць у журы школьнага тэатральнага конкурсу. Відаць, што моладзь нечага хоча і добра гуляе на сцэне.

***У.С.З.: — А што думаеце пра акцёраў, якія выступаюць у польскіх тэлесерыялах?***

**І.С.:** — Ведаеце... Людзі маюць свае сем'і і зарабляюць грошы. Сярод акцёраў многа беспрацоўных, у тэатры няшмат штатаў. Гэта даволі патрабавальны рынак. Адкажу так: самыя важныя акцёры не выступаюць у тэлесерыялах.

***У.С.З. — Як зрабіць, каб выступіць у важным фільме і зарабіць многа грошай?***

**І.С.:** — Напэўна... трэба пайсці на кастынг. Можа, каму пашчасліціца.

## Асі Стэльмашук і Міхалу Троцу

**якія 15 ліпеня павянчаюцца ў царкве, зычым — шчасцейка, многа прыгожых дзетак, усякага прыбытку і Божага блаславлення.**

*Сябры XXVI Сустрэч „Зоркі”*

# Музыка з кайфам

## Before „Басовішча”

Напярэдадні 23 выпуску фестывалю „Басовішча” хочацца перш за ўсё заахвоціць усіх прыехаць ва ўрочышча Барык, што пад Гарадком, і падтрымаць дуэт арганізатараў.

Сёлета склалася так, што фестываль апынуўся пад сур'ёзнай пагрозай — мог нават не адбыцца. Хто мог рашаць, дапамог знайсці выхад з тупіка. Беларускае аб'яднанне студэнтаў знайшло партнёра і тады знайшліся сродкі на арганізацыю фестывалю. Маладыя басаўцы як мага эфектыўна стараюцца скарыстаць гэты шанс, каб давесці, што фестываль трэба працягваць, што беларускія студэнты існуюць і будуць захоўваць ідэю „Басовішча”. Сродкаў намнога, таму і складана знайсці многа цікавых выканаўцаў. Можам сказаць, што сёлетні выбар выканаўцаў можа не захапляльны, але напэўна кожны з гуртоў дакажа сваю вартасць і прывядзе публіку да эйфарыі!

Варта дадаць, што апрача музыкі на сцэне, пасля канцэртаў, будуць дыджэйскія сэты. Чарговы раз будзе можна паглядзець кіно.




„Басовішча” адбудзецца на гэтых выхадных, але ў Беластоку ўжо прайшлі сустрэчы, якія павінны расказаць што-небудзь пра маючы адбыцца фестываль. Напэўна дапамагла выстаўка ў Цэнтры імя Заменгофа ў Беластоку, мноства здымкаў, слайдаў, архіўныя фільмы. Прайшоў таксама адбор на беларускім і польскім баках. Хаця арганізатары не пазбеглі спрэчак вакол конкурсантаў, то ўсё ж такі прытрымліваюцца думкі, каб у Барыку было месца для маладых і перспектыўных выканаўцаў. Напэўна тады варта будзе пабачыць гурты „PANaNieba” і „Раша”, а тых, хто чакае зорак, напэўна не падвядуць выступы гуртоў „Нейра-Дзюбель” ці „БН” — гэта ж гісторыя фестывалю. Хаця на Беласточчыне актыўнасць у галіне сучаснай музыкі стаіць у месцы, то запрэзентуюцца ўсё такі два гурты „AIMA” ды „Ilo&friends”. А можа камусьці гэта натхніць, каб праявіць сябе творча на ніве беларускай мовы... Музыка межаў не ведае!

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 29

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 24:

Сена, архідэа, куток, гіт, час, воўк, цуд, Афіны, цацачка. Смех, вуха, но, год, архіў, хутка, дачніца, эра, слых.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы”, выйгралі **Магда Граматовіч**, **Аляксандра Куптэль** з Нараўкі, **Мая Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!





# Летні канцэрт у Крынках

Крынскія зоркі калектыву „Эксіт”

■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Самае вядомае месца ў Крынках — цэнтральны пляц. Турысты, едучы ў Крушыняны, запыняюцца на хвіліну ў самым цэнтры Крынак, каб пабачыць адзіны ў краіне зорачны рынак з адыходзячымі ад яго дванаццаццю вуліцамі. Паўстаў ён у XVIII стагоддзі па ініцыятыве Антонія Тызенгаўза, тагачаснага адміністратара Гродзенскай эканоміі, і быў найважнейшым месцам мястэчка. На зорачным рынку спрадвеку знаходзіліся такія будоўлі як ратуша, гандлёвыя рады, корчмы і купецкія хаты. У пачатку ХХ стагоддзя тут пабудавалі стыльны кінатэатр „Мадэрн”. Адным словам, быў гэта цэнтр эканамічнага, грамадскага і культурнага жыцця калісь немалога горада. Вялікі гістарычны брукаваны рынак ліквідавалі ў 1960-х гадах. На яго месцы паўстаў невялікі парк — месца сустрэч мясцовых дэнатурнікаў. Дзякаваць Богу, рынку паступова вяртаецца даўні бляск і значэнне, дзякуючы дырэкцыі мясцовага дома культуры, якая ад пяці гадоў у часовым паркавым амфітэатры, за свае скромныя фінансавыя сродкі, арганізуе летнія канцэрты. Пачаткова мерапрыемствы мелі загаловак „Свята вады”, але з-за іх сціпласці два гады таму арганізатары рашылі перайменаваць іх у „Летнія канцэрты”, якія інаўгуруюць канікулярны, культурны сезон у мястэчку. Па словах дырэктар крынскага асяродка культуры Альжбеты Чарэмхі, „«Летнія канцэрты» маюць выключна музычную форму, але ў планах прадбачваецца пашырэнне іх формулы, між іншым, на ахову прыроды ці кулінарыю. Хочам папулярызаваць наш найвялікшы скарб — крынскую ваду шляхам конкурсаў на найсмачнейшыя хатнія напоі — ліманад, настойку ці зёлкавую гарбату”.



Госці з Гародні

Сёлетні крынскі канцэрт прайшоў 23 чэрвня, якраз напярэдадні Купальскай ночы. Пачаўся ён уступным словам вядучай Люцыны Юркевіч, якая прыблізіла мясцовай публіцы даўнія купальскія звычаі. З ліку васьмі калектываў, запрошаных да ўдзелу ў мерапрыемстве, першымі выступіў сакольскі „Ювэ” — лаўрэат конкурсу музыкі дыска-пола „Бялы мiсь”. Папулярныя польскія песні пад фанаграму праспяваў калектыў настаўніц з Дубровы-Беластоцкай. Гучала таксама польская харавая музыка ў выкананні калектыву крынскіх пенсіянераў „Погодна есень”. Англійскі рок запрезентаваў крынскі вакальна-інструментальны калектыў „Ноў нейм”.

З найстарэйшымі, мясцовымі песнямі пазнаёміла публіку „Заранiца”, якая ў гэты раз выйшла на сцэну ў пашыраным саставе. Маленькая Таня — пастаянная ўдзельніца рэпетыцый дуэта, пажадала дапамагчы сваёй маме і цёці Алене ў сапраўдным канцэртным выступленні. Як на першы раз някепска справілася яна з роляй перкусісткі. Па заказе вядучай канцэрт Люцыны Юркевіч „Заранiца” выканала славутаю „Купалінку”, якую падпявала таксама сабраная публіка.

Свае музычныя здольнасці паказалі дзеці — удзельнікі заняткаў ігры на фартэпіяна і гітары ў мясцовым доме культуры. У іх выкананні прагучалі любімыя творы сусветнай лёгкай музыкі.

Да ўдзелу ў мерапрыемстве арганізатары запрасілі сяброў з Беларусі. З музычнай школы № 1 у Гародні прыехаў інструментальна-вакальны калектыў „Фантазія” пад кіраўніцтвам Людмілы Рузаевай, які толькі што адзначыў свой дзесяцігадовы юбілей. Найчасцей яны выступаюць у роднай Беларусі, але неадночы слухалі іх у Літве, Латвіі і Польшчы. Нядаўна іх прымалі ў сталіцы Нямеччыны, скуль вярнуліся поўныя ўражанняў. У „Фантазіі” спяваюць выдатныя вакалісткі: маладая Алена Бобук і і яе інструктар па вакале, заслужаны дзеяч культуры Галіна Качалова. Рэпертуар калектыву змяшчае папулярную музыку з Беларусі і Расіі, спяваюць таксама на польскай, іспанскай і англійскай мовах.

Галіна Качалава — выпускніца Ленінградскага інстытута культуры і мастацтваў — распавяла чытачам „Нівы” пра сваю сустрэчу з вядомай польскай спявачкай Аннай Герман. „Гэта было ў сямідзесятых гадах у Беластоку. Мне пашчасліла заспяваць у тамтэйшым тэатры на юбілейным канцэрце „Газеты всполчэснэй”. Так сталася што там таксама выступала Анна Герман. Мы пазнаёміліся, аб'ядналі нас сцэна, любоў да музыкі і жыцця. Між намі завязалася сапраўднае сяброўства, вялася ажыўленая перапіска. Мы спланавалі чарговае спатканне, якому, на жаль, перашкодзіла ейна, неспадзяваная смерць”.

У ліку ўдзельнікаў летняга канцэрта апынуліся і гаспадыні мерапрыемства — жанчыны з калектыву „Эксіт”, які дзейнічае пры мясцовым асяродку культуры. Яны папулярызуюць любімыя песні з жанру польскай папулярнай музыкі мінулых дзесяцігоддзяў. Хаця спяваюць толькі два гады, то сталі яны сапраўднымі зоркамі крынскай эстрады, здабываючы падтрымку мясцовых улад і шматлікіх фанатаў. У калектыве вакальныя таленты развіваюць, між іншым, дырэктар крынскага дома культуры і жонка крынскага бурмістра. У час летняга канцэрта „Эксіт” быў адзіным, якога публіка не хацела адпусціць са сцэны. Некаторыя слухачы сталага ўзросту, убачыўшы знаёмых жанчын на сцэне, не змаглі стрымаць сваіх эмоцый і ад радасці ускаквалі на ліхтарныя стаўбы. Некалькі слоў пра калектыў „Эксіт” чытачам „Нівы” сказала іх мастацкі кіраўнік Лілія Жылінская з Гародні: „У нас пераважна спяваюць аматары, якія вельмі хацелі спрабаваць сваіх сіл на сцэне. Яны самастойна прыдумваюць і падбіраюць рэпертуар. Мая сяброўка з Гародні, Інэса, таксама ўдзельніца калектыву, робіць нотныя запісы, а я распрацоўваю падзел на галасы. Апрача рэпертуару родам з польскіх дыскатэк сямідзесятых і васьмідзесятых гадоў нашыя жанчыны выбіраюць польскую паэзію. Мы ўжо выступалі ў конкурсе спяванай паэзіі ў Кузніцы, скуль прывезлі вылучэнне. Ужо другі раз будзем выступаць на Днях Крынак, два разы мы спявалі на крынскім вечары калядак. Былі мы з канцэртамі і ў Дуброве-Беластоцкай, дзе пазнаёміліся і пасябравалі з вельмі падобным па рэпэртуары калектывам пяючых настаўніц. У нас заўсёды ёсць над чым працаваць. Рэпетыцыі адбываюцца толькі раз у тыдзень. Гэтага, канешне, недастаткова, але я не ў змозе прыязджаць у Крынкі часцей. Калі ўжо спатыкаемся, то працуем да позняй ночы. Я вельмі ўдзячна жанчынам за энергію і час, прысвечаны калектыву. Дзякую таксама мужыкам за тое, што адпускаюць іх з хаты. Пакуль ніхто не адмовіўся, што і раз далучаюцца новыя спявачкі. Атмасфера ў калектыве толькі паляпшаецца, жанчыны штораз больш да сябе зближаюцца, што, вядома, адлюстроўваецца ў якасці вакальнага ўзроўню. Яны ўжо пачынаюць слухаць адна другую, супольны спеў становіцца штораз больш якасным. Усё-такі чакае нас яшчэ доўгая і знясільваючая работа. З кожным публічным выступленнем мы падносім свой узровень, таму што на сцэне найлепш відаць усякія недапрацоўкі і недахопы. Чым больш будзем выступаць, тым больш набярэм лепшага сцэнічнага досведу. Жанчыны з нашага калектыву вельмі стараюцца і многа працуюць, у іх ёсць моцнае жаданне супольнага спеву, кантактаў са сцэнай”.

Паводле вядучай, дырэктар мясцовай бібліятэкі Люцыны Юркевіч, „сёлетні канцэрт прайшоў вельмі ўдала. Падборка калектываў была асабліва цікавай і разнастайнай, а маштаб мерапрыемства аказаўся амаль фестывальным. Прыкметны быў высокі ўзровень выканаўцаў, паспрыяла таксама цудоўнае надвор'е. Вялікая формула сёлетняга канцэрта, думаю, задаволіла ўсякія музычныя густы і кожны здолеў знайсці тут штосьці для сябе. Мерапрыемства адбываецца заўсёды ў ваколіцах свята Купалы. Вельмі мне хочацца, каб калісь сарганізаваць у Крынках сапраўдную Купальскую ноч з вогнішчам, вянкамі, сапраўднымі традыцыйнымі танцамі. Думаю, што трэба ісці менавіта ў гэтым напрамку”.



■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Па былой Бельскай пушчы (2)

Царква ў Чыжах

Ад Асоўкі да Чыжоў каля двух кіламетраў адлегласці. Пра Чыжы а. Рыгор Сасна быў пісаў: „Miejscowość znana była już w XVI wieku jako zamieszkała przez bartników, osoczników i strzelców Puszczy Bielskiej. Pierwsze wzmianki o wsi Czyże pochodzą z 1529 roku. Około 1562 roku była ona osadzona na 62 włókach” (адна валока гэта амаль чатыры гектары). І далей: „Mieszkańcy dzisiejszej wsi Czyże spełniali niegdyś szczególną rolę. Była to kategoria ludności służebnej. Mianowicie strzelcy zobowiązani byli do chodzenia na łowy i na wyprawy wojenne, zaś osocznicy — do strzeżenia puszcz królewskich i udziału w łowach”.

Рэвізія пушч Рыгора Валовіча ад 1559 года згадвае адно пра Чыжоўскую дарогу; вось апісанне граніц тагачаснай Бельскай пушчы: „Починаетъ ся граница тая отъ реки Нарвы. Отъ тое Нарвы реки великое Наровкою речкою уверхъ до речки Величковки. А отъ речки Величковки до речки Криницы. А Криницею уверхъ до Юркова Городища. А отъ Юркова Городища до Койловы дороги. А Койловою дорогою до Фоинъ. А отъ Фоинъ тою жъ дорогою Койловою до речки Вежанки. Отъ тое речки Вежанки, край поль, зоставуючи пущу поправу, а поля полеву, ажъ до стены, ново отъ поль, волокъ, заложеныхъ копцами и гранми старыми. Тамъ тою стеною, зоставуючи поля полеву, а пущу поправу, ажъ до речки Колашовки. Тою рекою Колашевкою уверхъ грань идетъ водою ажъ до дороги Чижевичъ. Тою дорогою Чижевичъ, отъ речки Колашевки до Заболотья. Отъ того Заболотья до бору Сухого. Тымъ боромъ Сухимъ до речки Лосиницы, край дороги тое жъ Чижевичъ, ажъ до речки Хрубустовки, ажъ до бору Маковки. Отъ того бору Маковки, край дороги тое жъ Чижевичъ, до бору Порослого. Отъ того бору Порослого до речки Кривца. Тымъ Кривцомъ речкою у Нарву реку и до Городища Попова”.

Гэтае апісанне карыстаецца шматлікімі тапаграфічнымі назвамі, з якіх не ўсе мне фамільярныя. Аднак яно наводзіць мне думку, што Бельская пушча ў той час была з захаду абмежавана нейкай Чыжоўскай дарогай, якая, на маю думку, пралягала краем тагачаснай пушчы з Чыжоў у Нарву. Да рэчкі Нарвы тадышняя Бельская пушча падыходзіла такой жа паласою, якою падыходзіць і сёння — цяпер пад назвай Лядскай пушчы, г.зн. паласою, абмежаванай рэчкамі Крыўчанкай ад захаду і Нараўкай ад усходу. Ад цяперашняй Капітаншчыны тадышняя мяжа пушчы праходзіла па рэчцы Вялічкаўцы да Крыніцы і далей да Гарадзіска, а ад Гарадзіска да Трывежы. Мяркую, што на захад не выходзіла яна за лінію Курашава — Камень, па якой, мабыць, і пралягала тая Чыжоўская дарога, дзе-нідзе мабыць камяністая. А адтуль цераз урочышча Забалоцце і Храбустоўку да Крыўчанкі.

А пазней-пазней узнікалі там, за адступаючай на ўсход пушчай пасяленні... На берагах *Вежанкі*, *Ласініцы* і *Крыўчанкі*, на месцы, дзе раслі яшчэ *лапухі* і на месцы, дзе ўжо радзіла *рэпка*, дзе жыў магчымы баброўнік *Васько*, дзе жыў магчымы бортнік *Каралюк*, дзе жылі *буднікі*, дзе народ вырваў з пушчы *кут* поля, дзе ў невялічкіх хатках ці на вузкіх яшчэ палетках *кутлуваліся* ў цеснаце навасёлы...

Яшчэ ў XVIII стагоддзі чыжавяне былі абавязаны выстаўляць дваццаць стральцоў. Былі там яшчэ і асочнікі, хаця Бельская пушча ад іх ужо аддалілася. Адміністратар Бельскай пушчы Францішак Смагажэўскі прыдумаў даць чыжоўскім стральцам і асочнікам іншы занятак, не прадугледжаны тадышнімі ляснымі законамі. Вяскоўцы ў 1720 годзе паскардзіліся на яго ды на ягонага начальніка, бельскага старосту, якім быў тады славуты ў Беластоку Ян Клеменс Браніцкі, у суд. Суд быў справядлівы: „Sąd (...) utrzymuje osoczników przy prawach do wolnego robienia piwa na chrzciny, wesela i pogrzeby i do wyrębu drzewa na opał; skazuje Smogorzewskiego pod karą banicji na zapłacenie powodom 400 zł. odszkodowania i na 4 tygodnie wieży grodu drohickiego za pogwałcenie glejtu, zmuszanie osoczników do robocizny i ciemiężenie egzekucjami”. Браніцкім суд не займаўся...

У той час Чыжэвічы былі ўжо далекавата ад пушчы, якая не спыняла адступаць на ўсход, саступаючы якасныя землі пад тагачасныя культурныя рас-



Крыжы на Сярэбранай горцы

ліны. Ранейшыя стральцы і асочнікі станавіліся земляробамі... Пісары дзеля нейкай эканоміі скарацілі яе назву, перахрышчваючы на Чыжы. А можа тое перахрышчэнне назвы было і вынікам ранейшага пераходу вёскі ў новыя канфесійныя структуры, пад новых пісараў...

Бо Чыжоўскі прыход, так як і навакольныя, прыняў пастановы Брэсцкай уніі; адбылося гэта ўжо ў пачатках XVII стагоддзя. Памяркоўна адбываліся там уводзіны новых парадкаў. Першая царква, як ужо згадвалася, была ў Чыжах ужо ў XVI стагоддзі. Невядома, ці ў пачатку XVII стагоддзя прайшла яна грунтоўны рамонт, ці было пастаўлена новае збудаванне. Тады, у XVII стагоддзі, былі ўстаўлены новыя іконы ў стары каркас іканастасу, які ў галоўнай, прыхадской чыжоўскай царкве датрываў аж да канца XIX стагоддзя. Верагодна, як меркавала Люцына Сталёньчык, што ў пачатку XIX стагоддзя стаяла ў Чыжах новая драўляная царква, у якую было перанесена аснашчэнне са старой царквы. Апісанне чыжоўскай царквы з 1727 года згадвала, што яна напалову старая, дах гонтавы, устарэлы, стары купал, няма падлогі... А ўжо ў 1808 годзе „cerkiew parochialna czyżewska drewniana formą czworokątu budowana, tarcicami okożuchowana, gątami kryta, z kopułą na wierzchu...”.

Дарэчы, тут у мяне ўзнікае загвоздка. А. Рыгор Сасна ў 2000 годзе ў апісанні Нарваўскага прыхода паведамляў: „Cerkiew pod wezwaniem Matki Bożej Kazańskiej pochodziła z początku XVIII w., najpierw stała w Czyżach. Prawdopodobnie pod koniec wieku XVIII znalazła się w Narwi i początkowo stanęła w miejscu dzisiejszej cerkwi parafialnej. W XIX w. przeniesiono ją na cmentarz ekumeniczny, obecnie nieużywany. W 1993 r. cerkiewka została przeniesiona na pochodzący z połowy XIX w. cmentarz prawosławny”, дзе згарэла з 30 красавіка на 1 мая 2000 года. Быццам чыжоўскія стральцы і асочнікі, замiж хадзіць на паляванні і войны, будавалі штовякова цэркві; шчаслівенька ёсць слова *prawdopodobnie*, якое дазваляе спадзявацца, што ў Нарву з Чыжоў трапіла не царква, толькі элементы царкоўнага дэкору.

У 1889 годзе чыжоўская прыхадская царква праходзіць грунтоўны рамонт, яна атрымлівае новы іканастас, а стары трапляе ў могільнікавую царкву, якая туды трапіла ў 1812 годзе з Локніцы. Пры нагодзе з прыхадской царквы выводзяцца скульптуры і храм траціць рэштки ўніяцкага аснашчэння, пераходзячы на праваслаўны лад. Прыхаджане не надта хацелі развітвацца з прывычным, уніяцкім дэкорам сваёй царквы, але тое развітанне адбылося даволі мякка, не так як раней у Пратуліне ці нават Гадышэве.

Аднак у царкве астаюцца іконы, многа іх. І якасныя яны. Бельскі староста Ян Клеменс Браніцкі быў мецэнатам мастацтва і дбаў пра якаснае выкананне царкоўнага аздаблення, прыцягваючы для іх выканання выдатнейшых мастакоў. Ды і ўдава па ім, Ізабэла, сястра апошняга польскага караля Станіслава Панятоўскага — так жа як ейны муж ды брат — таксама была шчырай мецэнаткай мастацтва і дбала пра падлеглыя мясцовасці Бельскага староства, у тым ліку і аздабленне тамашніх культавых аб’ектаў. Адбывалася гэта яшчэ ў час Рэчы Паспалітай, да яе апошняга падзелу. Чарговае ўзбагачэнне чыжоўскай царквы якасным іканапісам адбылося амаль сто гадоў пазней, у згаданым 1889 годзе, у час грунтоўнага рамонту, калі для аздаблення царквы на праваслаўны лад былі прыцягнуты вядучыя віленскія іканапісцы. Усе з найбольш каштоўных чыжоўскіх скарбаў царкоўнага мастацтва былі абноўлены пасля чарговых амаль ста гадоў, у 1982 годзе. А неўзабаве, ноччу з 28 на 29 жніўня 1984 года, на Спленне, намоленая і адрамантаваная драўляная чыжоўская царква, як некалі прарок Ілья ў вогненнай калясцы з вогненнымі коньмі, узнялася ў неба. Але згарэла толькі рукатворнае, расчышчаючы месца для творчасці чарговых мастакоў, ахопленых рэлігійнымі парывамі, якіх адухаўляюць агіяграфічныя сюжэты. Такое ж самае культавае адухаўленне было рухавіком мастацкай творчасці ў розных цывілізацыях, напрыклад у старажытнагрэчаскай.

Будова чарговай, ужо мураванай царквы, пачалася ў Чыжах у наступным, 1985 годзе. Крыж на яе галоўным купале быў узведзены ў 1992 годзе, а на Спленне 1993 года, адзінаццаць гадоў пасля пажару, новую царкву асвяціў тадышні мітрапаліт Васілій. Новая царква выглядае імпазантна, гэта адна з найбольшых вясковых цэркваў у маштабе краіны, а магчыма, што і ў шырэйшым абсягу. Відаць яе здалёк, а асабліва імпазантна бачыцца яна з Сярэбранай горкі...

Дарога з Чыжоў у напрамку Орлі вядзе цераз Сярэбраную горку; назва яе выводзіцца, магчыма, ад шэра-срэбнага колеру тамашняга пясочку. На Сярэбранай горцы адбылася адна з большых мясцовых бітваў у час запуску славутага Плана Барбароса. Менавіта неўзабаве пасля нападзення Германіі на Савецкі Саюз, у разгар лета 1941 года, немцы акружылі на Сярэбранай горцы адну з савецкіх часцей; загінула тады там больш паўтысячы „мальчишек”. Іх целы былі закапаны ў вялікі дол, з якога пасля вайны былі эксгумаваны на савецкія ваенныя могілкі ў Гайнаўцы. Але і ў чарговыя гады мясцовыя людзі знаходзілі яшчэ астанкі палеглых салдат, якіх там, на месцы, і хавалі. Зараз на Сярэбранай горцы невялічкія могілкі, акуратна дагледжаныя тамашнім насельніцтвам. Раней з Сярэбранай горкі людзі бралі жвір, але ўлічваючы яе некрапольную ролю здабыча жвіру была спынена і цяпер колішні кар’ер зарастае маладняком.

Крыху далей нейкі „рацыяналізатар” паскідаў у дарожныя калдобіны абломкі шыферу. Дарога ад гэтага выпраўлення надта раўнейшай напэўна не стане, затое азбест памаленьку пранікне ў глебу і трэба адно спадзявацца, што добрая прырода нікуды далей яго не прапусціць.

Зайшоў я яшчэ ў Шчыты, дзе, не так як у Чыжах, захавалася крыху ўніяцкай спадчыны. Гэта не толькі царква з 1785 года, але і вонкавая скульптура святога Яна Непамуцкага, нябеснага заступніка спавяданняў, Прагі і Чэхіі, ахоўніка ўраджаю ад паводак і засух.

# Слонімцы ўшанавалі памяць Міхала Валовіча

Тэкст і фота Сяргей ЧЫГРЫНА

Штогод летам слонімцы ўшаноўваюць памяць аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830-1831 гадоў супраць Расійскай імперыі Міхала Валовіча і яго паплечнікаў. Справа ў тым, што пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Беларусь была цалкам акупавана расійскімі войскамі. На працягу няпоўных ста гадоў беларусы тройчы ўздымалі меч барацьбы супраць нацыянальнага ворага — Масквы. Адным з самых магутных было паўстанне 1830-1831 гадоў. Чынным яго ўдзельнікам быў мой зямляк са Слонімшчыны Міхал Валовіч. Ён нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года ў маёнтку Парэчча Слонімскага павета. Лістападаўскае паўстанне 1830 года застала Міхала ў бацькоўскім доме. У той час, калі расійскія войскі былі выгнаны з Польшчы, выступленне паўстанцаў у Беларусі ўжо распачыналася. Тут існаваў Цэнтральны камітэт па кіраўніцтве паўстаннем на Беларусі ў тагачаснай сталіцы — Вільні. Камітэт меў сувязь з варшаўскімі паўстанцамі і з кожным паветам. Паўстанцкі камітэт Слонімскага павета вылучыў сваім прадстаўніком Міхала Валовіча і накіраваў яго за дырэктывамі ў Вільню. У хуткім часе Валовіч удзельнічае ў Грахоўскай бітве, за што атрымлівае сваю першую вайсковую ўзнагароду. Новы Народны ўрад Польшчы вырашае дапамагчы паўстаўшай Беларусі. Валовіч і Пржацлаўскі павінны былі сустрэць груз са зброяй у Паланзе. Пакуль яны дабраліся да Палангі, порт ужо быў захоплены расійцамі. Палангу было вырашана ўзяць штурмам, сумесна з партызанскім атрадам Яцвіча. Штурм пачаўся 13 траўня 1831 года. Спачатку поспех быў на баку паўстанцаў, аднак да расейскага гарнізона неўзабаве падаспела дапамога. Потым быў штурм Вільні, аднак авалодаць горадам не ўдалося. Валовіч у гэты час прымаў удзел у баях пад Шаўлямі, Душвентамі, Повендэнямі і Новым Местам. За заслугі ў справе паўстання Валовіч і Пржацлаўскі былі ўзнагароджаны Цэнтральным урадам Польшчы залатымі кавалерскімі крыжамі. А на Бацькаўшчыне, у адпаведнасці з загадам расейскага цара, іх чакаў расстрэл...

Некаторы час Валовіч вымушаны быў знаходзіцца на чужыне. У Парыжы ён з паплечнікамі рыхтаваўся да нова́га паўстання. У пачатку сакавіка 1833 года група патрыётаў рушыла на Бацькаўшчыну. Дабраліся не ўсе. Але найбольш здатныя перайшлі мяжу і прыступілі да падрыхтоўкі паўстання. Валовіч хутка сфарміраваў партызанскі атрад. З мэтай здабыцця сродкаў на закупку зброі паўстанцы здзейснілі няўдалы напад на паштовую карэту з казённымі грашыма. Тым часам у Валовіча з'явілася магчымасць павялічыць свой атрад, бо 10 траўня ў лес уцяклі 28 палонных паўстанцаў, якія раззброілі свой канвой. Каб не дапусціць аб'яднання паўстанцаў, на іх пошукі было кінута звыш 10 тысяч салдат, паліцыянтаў і прыгонных сялян. Міхал Валовіч быў схоплены. На допытах трымаўся годна, праявіў выключную мужнасць, нічога не расказаў катам пра паўстанцкую арганізацыю. 21 ліпеня (2 жніўня па н.ст.) Міхал Валовіч быў павешаны ў Гродне. Пазней яго маці выкупіла мёртвае цела сына і прывезла ў Парэчча. Міхала Валовіча пахавалі на мясцовых могілках каля ўніяцкай царквы. Яму паставілі помнік, які стаяў да таго часу, пакуль на Слонімшчыну не прыйшлі бальшавікі, якія ўсё знішчылі.

Вось і сёлета 1 ліпеня ў вёску Парэчча, дзе нарадзіўся Міхал Валовіч, і дзе ўстаноўлены мемарыяльны знак паўстанцам, сабралася каля 50 чалавек са Слонімшчыны і Дзятлаўшчыны.

Мерапрыемства адкрыў кіраўнік слонімскай суполкі БХД Іван Бедка. Пасля выступалі сябры іншых палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў Іван Шэга, Барыс Кучынскі, Мікалай Ракевіч, Мікалай Барысік. У сваіх прамовах выступоўцы прыгадвалі паўстанцаў 1830-1831 гадоў, казалі пра сённяшнюю палітычную сітуацыю ў краіне, асабліва хвалявала выступоўцаў мэтанакіраванае знішчэнне беларускасці, роднай мовы, палітычныя арышты, а таксама слонімцы казалі і пра парламенцкія выбары, якія заклікалі ігнараваць і байкатаваць.





12 гадоў таму слонімскія грамадскія актывісты ўстанавілі на парэцкіх могілках мемарыяльны знак у гонар Міхала Валовіча і яго паплечнікаў, дзе штогод і адбываецца ўшанаванне герояў.

Пасля ўрачыстай часткі ўшанавання Міхала Валовіча і паўстанцаў 1830-1831 гадоў пачаўся шахматны турнір, які правёў майстар спорту па шахматах Уладзімір Ліцвін. Дарэчы, усе ўдзельнікі турніру былі апранутыя ў майкі беларускага Радыё Рацыя.

Увесь час за ўдзельнікамі мерапрыемства сачыў белы „жыгулёнак" з нумарамі 5536 ІА-4. З яго людзі ў штацкім здымалі на камеру ўсё мерапрыемства і яго ўдзельнікаў. Людзі не выходзілі з машыны, але адсочвалі ўсіх ад пачатку да канца. Тым не менш мерапрыемства адбылося і ніхто не быў арыштаваны.




Пэўна на ўсёй тэрыторыі колішняга так званага сацыялістычнага лагера знойдуцца людзі, якія наракаюць на цяперашнюю рэчаіснасць і з сумам азіраюцца ў мінулае, якога ўжо не будзе ніколі. У адных краінах такіх настальгуючых больш, у другіх — менш. Адной з краін, большасць насельніцтва якой з жалем успрыняла разбурэнне камуністычнага міфа і дагэтуль сумуе па сацыялістычным самападмане, з'яўляецца Беларусь. Пра яе мінулае, якое называлася БССР, распавядае сайт БССР-online, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://bssr-online.net**.

Каляровая гама выяўлення сайта падабрана яго стваральнікамі вельмі трапна — карычневы, бардовы і бэжавы колеры ўспрымаюцца як фарбы, у якія была „размалявана" БССР на працягу свайго існавання.

Нягледзячы на тое, што будова сайта звычайная — выяўленне падзяляецца на дзве няроўныя часткі, усе выйсці да рубрык месцяцца выключна ўверсе. Найбольш цікавай з іх падаецца рубрыка „Пра нас", што знаходзіцца ў канцы ўсяго пераліку, і дзе ўладальнікі „настальгічнага" сайта распавядаюць пра мэты яго стварэння. „Нашы мэты: 1 — Захаванне гістарычнай спадчыны, 2 — Калекцыянаванне, абмен артэфактамі эпохі, 3 — Абмен інфармацыяй па тэме", — пішуць невядомыя аўтары партала. Дасягненне сваіх мэт яны бачаць праз выкарыстанне такіх метадаў як збор аўдыё- і відэаматэрыялаў з асабістых калекцый, арганізацыя кінапаказаў, лекцый, канцэртаў, развіццё і папаўненне тэматычных сеткавых рэсурсаў.

Уладальнікам сайта важна спрыянне з боку наведвальнікаў, і таму яны з падзякай прымуць у якасці падарункаў старыя пласцінкі, фатаграфіі, кнігі, аўдыё- і відэазапісы на беларускай мове ці прысвечаныя Беларусі ХХ стагоддзя.

Галоўная старонка сайта не надта зразумелая. Канешне, там змешчаныя разнастайныя моманты з гісторыі БССР, такія як, напрыклад, фільмы, знятыя на кінастудыі „Беларусьфільм", расповед пра першага сакратара Цэнтральнага камітэта КПБ Панцеляймона Панамарэнку, копіі аркушаў часопіса „Беларускі піонэр" № 11 за 1926 год. Але ўсё гэта не сістэматызавана, не „раскладзена" па гадах ці тэмах, таму выглядае як нейкае месіва фотаздымкаў, відэакадраў і тэкставай інфармацыі.

Крыху разумення ўносяць наступныя рубрыкі „Відэа", „Аўдыё", „Людзі" і „Гарады". Там, змешчаныя на галоўнай старонцы матэрыялы, падаюцца згодна спосабу падачы інфармацыі па аб'ектах, людзях ці гарадах.

Як мае быць у БССР, беларуская мова знаходзіцца на сайце далёка не на першым месцы. Большасць выкладзеных матэрыялаў выключна рускамоўныя. У тым ліку і старонка „Home video", дзе стваральнікі сайта распавядаюць, якімі важнымі з'яўляюцца старыя кінакадры, знятыя ў сярэдзіне ХХ стагоддзя на аматарскія кінакамеры і цэлюлоідную стужку. Каб іх захаваць, уладальнікі сайта прапаноўваюць на бясплатнай аснове сваю дапамогу ў алічбоўцы, гэта значыць у пераносе відэаінфармацыі са стужак на лічбавыя носьбіты — DVD ці CD-плыты. Умова адна — каб дзесяць хвілін з адзнятага матэрыяла яго ўладальнік перадаў у агульнае карыстанне.

Варта адзначыць, што абнаўленне „БССРаўскіх" успамінаў на сайце адбываецца нячаста — апошняе было толькі напрыканцы мая 2012 года.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Вандроўка па Луне

Мястэчка Луна, што на Мастоўшчыне, багатае на мясцовыя паданні і легенды. У афіцыйнай версіі гэтая вёска, якая зараз пераўтворана ў „агрогородок", называецца Лунна. Аднак, мясцовыя краязнаўцы, найперш Алесь Белакоз, слушна даводзяць, што назву трэба вымаўляць і пісаць праз адно „н", а пайшла яна ад слова, што азначае нізкую, забалочаную мясцовасць.

Неяк з вялікай групай беларускіх настаўнікаў і краязнаўцаў наведвалі мы ў Польшчы мясцовасці Заходнепаморскага ваяводства. Там зараз надзвычай папулярнымі сярод турыстаў сталі так званыя тэматычныя вёскі — „Вёска лабірынтаў", „Вёска хобітаў", створаныя паводле вядомага літаратурнага твора, і іншыя. Тады ж падумалася, што такія вясковыя асяродкі магчыма стварыць і ў нашых мясцовасцях. А настаўнік з Луны, цяпер ужо пенсіянер, наш добры старэйшы сябар Лявон Карповіч, рэзонна падумаўшы, што адклад не ідзе ў лад, здзейсніў такую распрацоўку і нават апрабаваў яе ў практыцы. Вандроўка па „Нёманскіх легендах" у Луне і яго ваколіцах можа захапіць кожнага. Лявон жа, які мае багатыя веды і пасапраўднаму юнацкі энтузіязм, папулярызуе ў розны спосаб сваё мястэчка дзе толькі можа. Так што Луна цяпер ведаюць як па ўсёй Беларусі, так і за яе межамі — у Польшчы, Амерыцы, Ізраілі.

Пачынаецца вандроўка па Луне ад мясцовага касцёла св. Ганны. Закладзены ён быў яшчэ каралевай Бонай Сфорцай. Сцвярджаюць, што менавіта яна прывезла на беларускую зямлю відэлец, якім мы зараз карыстаемся штодня. Каля касцельнай агароджы ляжыць камень з чырвонага граніту, які закладала сама каралева ў падмурак першага храма. Паводле мясцовай легенды, да гэтага каменя мусяць ісці маладыя, якія пастанавілі пабрацца шлюбам без згоды сваіх бацькоў. Яны просяць у Боны Сфорцы, каб тая не помсціла ім, як некалі сваёй нявестцы Барбары Радзівіл.

Наступны прыпынак на мясцовых могілках. Тут магіла „рыцара з дыяментавай душой" Яна Каменскага. Уладальнік суседняй вёскі Мінявічы Ян Каменскі, паўстанец 1863 года, цывільны начальнік Луненскай акругі, стаў прататыпам літаратурнага героя Элізы Ажэшкі, Андрэя Карчыньскага. Каменскі за ўдзел у паўстанні быў засуджаны на смерць, якую замянілі пажыццёвай катаргай у Сібіры. Там ён не загінуў, і нават атрымаў мянушку „кіргізскі кароль" за абарону нацыянальных меншасцей. А пасля амністыі вярнуўся ў Луну, дзе пражыў яшчэ 8 гадоў.

Наступная станцыя маршруту — гэта месца над рэчкай, дзе некалі стаяў стары млынок. Тут было старое рэчышча Нёмана, якое той пакінуў. Пра гэта таксама ёсць адмысловая легенда. Была ў гісторыі Луны і надзвычай трагічная старонка. Здавён тут жылі габрэі, паводле пісьмовых крыніц ажно з 1606 года. Пра даўнюю іх прысутнасць тут сведчыць кіркут — старыя габрэйскія могілкі. А ў 1941 годзе ў час страшнай вайны сюды прыйшлі гітлераўцы. У Луне было створана гета, а ў лістападзе 1942 года ўсіх іх сабралі і транзітам праз Калбасіно, што пад Гародняй, вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер смерці. У памяць пра загінуўшых вяскоўцаў мясцовыя грамадска-палітычныя актывісты ў наш час, калі старшынёй сельсавета была жонка Лявона Карповіча, Валянціна Мікалаеўна, устанавілі ў цэнтры мястэчка памятны знак. Тады ж, у пару дэмакратычнай адлігі, некалькі вуліц паселішча атрымалі нацыянальныя назвы.

Працяг вандроўкі далей ідзе ўздоўж берага Нёмана, дзе падарожніка чакае яшчэ некалькі цікавых легендаў і атракцый. Луна вартае таго, каб яго наведаць і раскрыць таямніцы гэтага мястэчка.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Хоць салому з'ем, але хвост дугой трымаць буду...

**„Еўра-2012" па-за намі. Скончыліся перажыванні. Час спусціцца на зямлю і задумацца над тым, што дало для нас арганізаванне спаборніцтваў Еўра-2012. Ці варта аўчынка вырабу?..**

У дзень адкрыцця футбольных спаборніцтваў рэчаіснасцю сталі шматлікія грамадскія і эканамічныя пагрозы. Прадбачваліся яны ўжо ў дзень выбару Польшчы на арганізатара імпрэзы. Арганізаванне турніру ў Польшчы мела быць штуршком для развіцця дробнай прадпрымальнасці, інфраструктуры турызму і спорту, таксама павелічання ролі Польшчы на міжнароднай арэне. Такая медыйная гаворка была патрэбна для здабыцця грамадскай падтрымкі ў арганізаванні мерапрыемства, дзеля скрывання фактычных коштаў. З гэтымі праблемамі мелі змагацца не толькі гаспадары гарадоў Еўра-2012, але і ўсе грамадзяне, якія мелі несці цяжар коштаў футбольнай фіесты.

— Арганізацыя Еўра-2012 у Польшчы, — гаварыў у „Сыгналах дня" дырэктар турніру ў Польшчы Адам Альковіч, — будзе каштаваць каля 80 мільярдаў злотых. Польшча да гэтай імпрэзы дабавіць 52 мільярды...

Але гэта быў адно прагноз урадавага чыноўніка. Рэчаіснасць здавалася быць намнога больш змрочнай. Бачылі яе грамадзяне, якія рашыліся 10 чэрвеня арганізаваць у Познані агульнакраёвую дэманстрацыю незадаволенасці пад лозунгам „Хлеба замест гульняў". Рэдакцыя „Практыкі тэарэтычнай" выказала становішча, у якім выяўляла волю дэманстрантаў: „Калі на арганізацыю футбольнага турніру прызначаюцца мільярды злотых, — чытаем у афіцыйным заяўленні, — у краіне абрэзваюцца выдаткі на рэалізацыю асноўных грамадскіх патрэб. Закрываюцца садкі, школы і дамы культуры, павышаюцца аплаты за дзіцячыя яслі, грамадскі транспарт і кватарунак. Прыватызуюцца або закрываюцца амбулаторыі, шпіталі і заводы. Не хапае грошай на змаганне з беспрацоўем, якое павышаецца. Значна падаражалі харчовыя прадукты, газ, паліва, электраэнергія, вада і лякарствы. (...) На выдаткі лёгкай рукою былі прызначаны 96 мільярдаў злотых. За пабудову познаньскага стадыёна, вартую 750 мільёнаў злотых, можна было б у ходзе дзесяці чарговых гадоў аплачваць больш шасці тысяч месцаў у публічных яслях".

Ніхто не хацеў слухаць голасу народа. Упраўляючыя, на чале з ПЗПН рашылі паступіць па прынцыпе: „Хоць салому з'ем, але хвост дугой трымаць буду". І збылося тое, што здарыцца павінна. Палякі прынялі футбольныя каманды і балельшчыкаў Еўропы з належнай славянам гасціннасцю. Прыезджыя былі зачараваныя, не скрывалі захаплення ў інтэрв'ю польскім СМІ. Пісалі аб тым на першых старонках замежныя газеты. Разумеецца, што па-за высока заслужанай пашанай для польскай грамадскасці засталіся кошты. Хто здзейсніў на гэтым „залатую здзелку", а хто аказаўся пацярпеўшым? Гэтае пытанне можна зараз паставіць упраўляючым.

Публічна стала вядомым, што на Еўра-2012 найбольш зарабіла УЕФА, якая ў рамках дамовы з польскім урадам была звольнена ад усялякіх падаткаў, у тым ліку ПДВ і ЦІТ, таксама ад лакальных падаткаў і мытнай пошліны. Вядомым таксама стала, што за „ўзорнае" арганізаванне турніру УЕФА прызначае 20 мільёнаў на пабудову новай сядзібы ПЗПН. На тэму коштаў, якія гадамі будзем несці мы, падаткаплацельшчыкі, не стану выказвацца. Паслухайма затым каментарыяў палітыкаў і інтэрнаўтаў.

— На Еўра-2012 выдалі мы 100 мільярдаў злотых, — гаварыў старшыня СЛД Лешак Мілер, — а гэта амаль два бюджэты НФЗ. Гэта аграмадны выдатак для Польшчы...

— Я проста пытаю, — пісала „праўда" на блёгу „Dziennik.pl" ад 4 ліпеня 2012 г., — колькі з тых 100 мільярдаў трапіла як хабар... Колькі атрымалі палітыкі і іхнія сем'і... Гэта, што за будову стадыёнаў пераплацілі, а аўтастрады дастануцца ў прыватныя лапы і прыватныя „калегі" на іх будуць зарабляць, гэта вядома. Я пытаюся, колькі было выдадзена на хабар гэтай пер... (тут пала нецэнзурнае слова — У. С.) мафіі... Праз 50 гадоў камуны партыйныя „дзеячы" разам не ўкралі столькі, што свінні пасля 89 года...

— А лекары на нашым жыцці і здароўі эканомяць кожную залатоўку, — пісаў чарговы інтэрнаўт „Антыглупак", на тым жа блёгу ад 3 ліпеня. — Колькі людзей памрэ праз нястачу гэтых грошай у НФЗ? Іхняя смерць будзе абцяжарваць разбэшчанасць Туска, які на мэту прапаганды выдаў вялікую касу, замест прызначыць яе на лячэнне хворых...

Такіх слоў горкай праўды і крытычных заўваг можна прыводзіць безліч. Але не зменяць яны сутнасці справы. У сусветным маштабе Польшча надалей будзе прыкмячаца „Зялёным востравам", хоць у сапраўднасці гэтую „зелень" прыкрывае шэрая, змрочная рэчаіснасць.

**Уладзімір СІДАРУК**

ОЛ'ЕН' ПО БОРУ ХОДІТ
VIII ПУДЛ'АШСКО – ПОЛ'ЕСКІ ЖНІВНЫ СУСТРЕЧЫ
VIII PODLASKO – POLESKIE SPOTKANIA ŻNIWNE
«OLEŃ PO BORU CHODIT»
14 lipca sobota
GORODZISKO GM. NAREW
15:00 Zażynki i obrzędy żniwne z udziałem zespołów z Bołotów k. Kobrynia (Polesie, Białoruś), «PODLASIANKI» (Gorodzisko) oraz «ŻEMERWA» (Studziwody)
15 lipca niedziela
WIDOWO GM. BIELSK PODLASKI
11:00 Spotkanie z zespołami z Bołotów i Chmielewa (Polesie, Białoruś)
KAJKI-REZNICZY GM. BIELSK PODLASKI
15:00 Spotkanie z zespołami z Bołotów oraz Chmielewa
MUZEUM MAŁEJ OJCZYZNY W STUDZIWODACH
18:00 Tradycyjny folklor Polesia kobryńskiego - spotkanie z zespołem z Bołotów
20:00 Spotkanie z zespołem «MALANKA» (stodoła przy Zimowej Drodze nr 2)
ZREALIZOWANO DZIĘKI DOTACJI MINISTRA ADMINISTRACJI I CYFRYZACJI ORAZ URZĘDU MARSZAŁKOWSKIEGO WOJEWÓDZTWA PODLASKIEGO
WSPÓŁPRACA - NAREWSKI OŚRODEK KULTURY
FB / STUDZIWODY

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | 1 |
| | | | | | | | | | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | | | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | | | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |
| | | | | | | | | | | | 35 | 36 |
| | | | | | | | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 |

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі.

1. рыбалоўная снасць з лёскай і кручком = 3 _ 42 _ 41 _ 4 _;
2. напр. экспарт = 18 _ 17 _ 39 _ 38 _ 14 _;
3. дрэва ў... абавязку = 12 _ 40 _ 7 _;
4. гарачае вугалле без полымя = 10 _ 11 _ 9 _;
5. асадак на дне вадаёмаў = 21 _ 20 _;
6. акцёр, які іграе толькі сродкамі мімікі = 34 _ 19 _ 28 _;
7. народ = 35 _ 15 _ 16 _ 27 _ 1 _;
8. пузырыстая маса, якая можа выступіць на вусны пры моцным хваляванні = 37 _ 36 _ 26 _ 25 _;
9. орган дзяржаўнай улады ў СССР, напр. Вярхоўны = 29 _ 33 _ 30 _ 31 _ 32 _;
10. месца працы суддзі = 2 _ 13 _ 6 _;
11. слізганне колаў, якія перасталі круціцца = 5 _ 22 _;
12. не сон = 8 _ 24 _ 23 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Нафталін, кроў, соль, кажурына, быліна, Ікар, Беліз, Унеча, Іўе, цар, крыж, Воўпа, Амерыка, авёс.

Рашэнне: **Скарына быў не толькі беларус; ён жыў і ў Піцеры** (выслоўе Аляксандра Лукашэнкі).

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу ПАЦЭВІЧУ** з Беластока.

# 15.07 — 21.07

**(22.03. — 20.04.)** Раптоўныя перамены ў тваім жыцці могуць канчыцца вялікімі стратамі. Адмоўся ад сумніўных здзелак і аклададзі да лепшага часу вялікія пакупкі. У панядзелак трымай язык за зубамі. У аўторак не стой заблізка маставой. У пятніцу хтосьці ўпарта схоча залезці табе на шыю.

**(21.04. — 21.05.)** Старое сяброўства можа перарасці ў каханне. У аўторак могуць табе вярнуць невялікую суму грошай. Серада добрая для інтэлектуальнага занятку. У пятніцу важную ролю сыграюць людзі, ад якіх ты гэтага не спадзяешся.

**(22.05. — 22.06.)** Будзь уважлівым на дарозе, адмоўся ад доўгіх падарожжаў. У панядзелак будзеш вельмі загружаны работай дома ці на працы. У аўторак магчымае дасягненне мэты ў розных службовых аперацыях. У чацвер у цябе многа жыццёвых сіл, маса актыўнасці і энергіі. У пятніцу начынай новае.

**(23.06. — 23.07.)** Тое, што табе здаецца быць перашкодай, на самай справе паслана Небам як асцярога. Добры час для пакупкі аўтамашыны ды падарожжа. У панядзелак трымайся здалёк ад непрыемных табе людзей. У аўторак даныя табе абяцанні будуць фальшывымі, а высілкі не дадуць рэзультатаў.

**(24.07. — 23.08.)** Лашчыцца чужы сабака — чакай прыемных вестак. Сустрэчы з каханай асобай будуць вельмі жарсныя. У панядзелак шчырая размова верне табе ўпэўненасць ва ўласныя сілы. У аўторак можаш знайсці новыя ідэі і напрамак дзейнасці. У другой палове тыдня ажыўленне ў прафесійных справах.

**(24.08. — 23.09.)** Тыдзень можа пачацца з канфлікту. Якісь падзеі не звязаныя з тваёй асобай могуць унесці ў тваё жыццё неразбярыху і страты. Важныя справы і вырашэнні адтэрміную на наступны тыдзень. Лепш адмоўся ад публічных выступленняў і гучных заяў. У аўторак старайся быць нейтральным у працэсе гарачых спрэчак.

**(24.09. — 23.10.)** У тваёй прафесійнай сферы паявяцца новыя перспектывы развіцця. Пастарайся, і ўсё пойдзе як па масле. Толькі не выкарыстоўвай іншых для сваіх мэт. Асабліва ў панядзелак хтосьці можа палічыць цябе лішне ганаровым і самаўпэўненым.

**(24.10. — 22.11.)** Твае скрытныя магчымасці дазволяць табе не страціць таго, што ўжо маеш і здабыць тое, што абавязкова павінна быць тваім. Знакаміты час на дапаўненне свайго гардэроба (не купляй танных рэчаў). На пачатку тыдня магчымы благі энергетычны ўплыў накіраваны на тваё жыллё. У сераду ўсе пытанні вырашацца з выгадай для цябе.

**(23.11. — 22.12.)** Можа дайсці да цябе фальшывая інфармацыя. Не вер нічому, чаго не ўбачыў на ўласныя вочы. Не падпісвай непрачытаных дакументаў. У панядзелак пільнуй грошай, здачы. У сераду не вырашай аб важным. Справы назначаная на пятніцу пойдуць на рэдкасць удала.

**(23.12. — 20.01.)** Магчымыя супольныя праекты з тваімі былымі ворагамі і канкурэнтамі. Выкарыстай да максімуму свае рэзервы і сілы, каб атрымаць тое, што вызначыў табе лёс. Інвестыцыі, маёмасць, нерухомасць, страхоўка і скідкі павінны прынесці табе добры прыбытак.

**(21.01. — 19.02.)** Выкарыстай свае перавагі і зрабі ўсё па-свойму. Каб цябе ўсе любілі і табою захапляліся, насі як талісман пяро павы (можа быць і ў выглядзе ювелірнай аздобы). У панядзелак пільнуй свайго абутку. Не спяшайся, еўшы ў сераду. У чацвер добра зоймешся службовымі справамі.

**(20.02. — 21.03.)** Магчымыя непрыемнасці звязаныя з вадой (калі не з вадаёмамі, могуць заліць тваю кватэру). У панядзелак магчымыя фінансавыя страты. Аўторак — актыўны, творчы дзень. Будзь асцярожны з электрапрыборамі, асабліва ў пятніцу. Абавязкова адпачні на прыродзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Наш свет рамёстваў

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Калі старэйшыя ўспамінаюць сваю моладасць і дзяцінства, часта пачынаюць расказваць пра цяжкую працу на полі і дома, якую мусілі выконваць з ранняга ўзросту. Да вайны нашы продкі ўтрымлівалі свае сем'і ў галоўным з працы на гаспадарцы або займаючыся рамяством — кавальствам, ганчарствам, апрацоўкай драўніны і іншымі заняткамі. Калі 29 чэрвеня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы адкрылася пастаянная выстаўка «Рамяство ў беларускай вёсцы Падляшша», старэйшыя людзі глядзелі на даўнія прылады працы, успамінаючы сваю моладасць. Маладыя яшчэ да афіцыйнага адкрыцця экспазіцыі глядзелі на частку экспанатаў як на невядомыя ім прадметы, але голас дыктара, які гучаў на беларускай мове, і працаўнік музея, які абводзіў моладзь, дапамаглі ім даведацца аб даўніх рамёствах. На мерапрыемства ў музей прыбылі дырэктары гайнаўскіх культурных і спартыўных устаноў, некаторыя радныя, члены музейнага аб'яднання і гараджане.**



— Мы сабраліся, каб адзначаць вельмі важны дзень: адкрыццё трэцяй пастаяннай выстаўкі, на якой будзе прэзентавацца матэрыяльная культура беларусаў Падляшша. Пэўна частка з вас першы раз пабывае таксама ў адрамантаванай у 2011 годзе кіназале, — заявіў дырэктар музея Тамаш Ціханюк, адкрываючы мерапрыемства. Там уручыў ён падарункі асобам, якія асабіста і праз свае ўстановы дапамагалі абсталёўваць новую экспазіцыю. Покі сабраныя перайшлі з кіназалы ў выставачную залу, паглядзелі яшчэ мультымедыйную прэзентацыю рамёстваў і працэсу абсталёўвання новай выстаўкі.



— Новапаўсталая экспазіцыя вельмі цікавая і да гэтай пары не хапала нам такой выстаўкі, займальнай па змесце і абсталяванай па-сучаснаму. Тут, на Падляшшы, людзі ўкладвалі многа сіл і здароўя, каб забяспечыць сваё бытаванне. Былі яны здольнымі асобамі і патрапілі выканаць усе патрэбныя для жыцця прадметы. Многа рамеснікаў у наваколлі пушчы ў галоўным выконвалі вырабы з драўніны, — сказаў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

Выстаўка прэзентуе рамёствы, якія можна было спаткаць у наваколлі Белавежскай пушчы (яны характэрныя таксама іншым раёнам Падляшша). Ткацкі варштат, які ў мінулым знаходзіўся практычна ў кожнай вясковай хаце, паказваецца ў музеі ў выдзеленым драўлянай сценкай памяшканні. Стаяць у ім кросны з муляжом ткачыхі, апранутай на даўні лад, калаўротак. У святым куточку вісіць ікона з ручніком, а збоку стаяць куфар з ткацкімі вырабамі, капамі і ручнікамі ды лава засланая тканым пакрывалам. Побач — кавальскі варштат з кавальскім мехам, кавадлам і вялікай колькасцю кавальскіх прылад і вырабаў, нават больш сучасных, з пасляваеннага перыяду. На выстаўцы можна таксама ўбачыць ганчарскі круг, вырабы ганчароў (гаршкі) і калеснікоў (воз, дуга, драўляныя колы і іх часткі). Выстаўку ўпрыгожваюць вялікафарматныя старыя здымкі, на якіх відаць працу рамеснікаў і іх вырабы. У сталярскім варштаце, дзе так як і ў кавальскім кутку знаходзіцца муляж рамесніка апранутага па-даўняму, можна ўбачыць такарны станок для апрацоўкі драўніны і шмат сталярскіх прылад і вырабаў. Знаходзіцца тут таксама посуд з клёпак, бочкі і маслабойка, якія выконваў бондар. Найменш месца на экспазіцыі адведзена рыбалоўству, бо займаліся ім толькі людзі, што жылі побач рэчак. Экспануюцца тут прылады да лоўлі рыбы: кломля, сетка з ільняных або канапляных ніцей, расцягнутая на тычках, сакі, жакі.

— Мы рады, што паўстала новая пастаянная выстаўка і вядуцца новыя працы ў музеі, які змагаецца з фінансавымі цяжкасцямі. Экспазіцыя пра рамёствы вельмі важная для маладых людзей, якія павінны знаёміцца з жыццём у мінулым і з нашымі традыцыямі. Формула выстаўкі мне падабаецца, бо яна жывая і зразумелая, — гаварыў Васіль Сакоўскі, былы настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя і актыўны дзеяч музейнага аб'яднання.

— Добра, што паўстала новая экспазіцыя, на якой можам паказаць нашае жыццё з мінулага, — сказаў Ян Хомчук, дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў еўрарэгіёна «Белавежская пушча», праз пасрэдніцтва якога жыхары Гайнаўшчыны атрымліваюць сродкі на рэалізацыю цікавых праектаў, між іншым на праекты па вяртанні памяці аб нашай мінуўшчыне.

З дакладам пра гісторыю рамяства, з асаблівым улікам нашых зямель, выступіла настаўнік гісторыі і антраполаг культуры Нэля Шчука, якая была кансультантам у час падрыхтоўкі выстаўкі (кансультацыі адбываліся таксама з Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічнам музеем). Распавяла яна пра развіццё рамёстваў, пачынаючы ад старажытнасці, праз сярэднявечча, і канчаючы на XX стагоддзі.

— Многія нашыя рамёствы з XIX стагоддзя, ці нават з першай паловы XX стагоддзя мала розніліся ад тых са старажытнасці, ці сярэднявечча. Цяпер многіх з іх ужо не сустрэнем. Працуюць яшчэ сталярскія майстэрні. Апошнім часам разгарнула дзейнасць сувенірнае рамяство, — заявіла Нэля Шчука. — Моладзь, пазнаёміўшыся з рамёствамі сваіх продкаў, можа многа даведацца аб працы рамеснікаў з вельмі далёкага мінулага, аб чым гаворыцца на ўроках гісторыі. Таму музейная выстаўка будзе вельмі прыдатнай для школьнай моладзі.

Дырэктар музея Тамаш Ціханюк удакладніў, што найбольш сталярскіх прылад і вырабаў прывезеных было на выстаўку з Крыўца, ад сям'і Гаўрылюкоў, якая выконвала практычна ўсе сталярскія вырабы, якімі карысталася мясцовае насельніцтва. Кавальскія экспанаты прывезены былі перш за ўсё з Палічнай, Кляшчэляў і Пасекаў, ткацкія — з Якубова, а рыбацкія снасці — з Лукі. У каляснічным кутку прэзентуюцца вырабы перш за ўсё з Мікуліч, а ганчарства паказваецца на падставе прылад і вырабаў з Лукі і Кляшчэляў.



— Ідэя стварэння выстаўкі аб рамёствах паявілася некалькі гадоў таму назад. Удалося яе рэалізаваць і паказаць жыццё нашых продкаў дзякуючы атрыманым сродкам толькі цяпер. Покі паўстала выстаўка, ладзілі мы экспедыцыі па наваколлі, збіралі экспанаты, даўнія здымкі, размаўлялі з рамеснікамі аб іх працы. Пасля трэба было кансерваваць сабраныя прадметы і падрыхтаваць іх да экспазіцыі. Напрыклад, некаторыя экспанаты знайшлі мы побач кузні ў Лушчах, пад лісцем і смеццем, — сказала Агнешка Ціханюк, аўтарка выстаўкі і мультымедыйнай яе прэзентацыі.

Выстаўку можна было наладзіць дзякуючы дапамозе колішняга Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, цяперашняга Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы ў Беластоку і Цэнтра культуры Беларусі ў Польшчы, якога віцэ-дырэктар Дзяніс Вялічка прысутнічаў на мерапрыемстве. З ліку больш за 400 экспанатаў, прэзентаваных на выстаўцы, частка была сабраная раней і перахоўвалася ў музеі. Новапрыдбаныя экспанаты збіраліся перш за ўсё ў Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. Вучні Гайнаўскага белліцэя пабывалі на выстаўцы разам з настаўнікам беларускай мовы Янам Карчэўскім яшчэ да яе адкрыцця, калі музейныя працаўнікі правяралі гукавую апаратуру, якая будзе суправаджаць наведвальнікаў музейнай экспазіцыі. Трэба спадзявацца, што ў наступным школьным годзе не толькі белліцэісты і белгімназісты будуць наведваць музейную экспазіцыю, каб пазнаёміцца з умовамі працы і жыцця іх продкаў.

— Усё на выстаўцы цікавае. Для маладых таксама важна, што паказваецца па-сучаснаму. Голас дыктара, на беларускай, польскай і англійскай мовах, можна падбіраць залежна ад наведвальнікаў экспазіцыі. Мы выбралі беларускую мову (голас гайнаўскай журналісткі Наталлі Герасімюк — А. М.), а Агнешка Ціханюк паказвала на тое, аб чым расказвалася ўголас, — гаварыў настаўнік і заадно намеснік старшыні музейнага аб'яднання Ян Карчэўскі.

На польскай мове наведвальнікаў выстаўкі будзе суправаджаць голас гайнаўскага беларускага пісьменніка Міхала Андрасюка, а на англійскай мове — Анны Хомчук, настаўніцы белліцэя.

Зараз збіраюцца карціны і іншыя мастацкія работы, вядзецца падрыхтоўка да стварэння чарговай пастаяннай выстаўкі — беларускага сучаснага мастацтва, перш за ўсё з Беласточчыны.

ISSN 0546-1960